Зусім мала часу засталося да заканчэння падпіскі на II паўгоддзе на «Народную Волю». Не спазніцеся!

№ 46 (3889)

17 чэрвеня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПАМЯЦЬ



# З намі!

*19 чэрвеня 1924 года на Беларусі нарадзіўся яе вялікі сын, якому будзе наканавана ўславіць сваю любую Айчыну ва ўсім свеце. Паслязаўтра ў гэты дзень ён мог бы сустрэць сваё 90-годдзе...*

***Васіль Быкаў** — адданы патрыёт роднай зямлі, непахісны змагар за яе свабоду, годнасць і светлую будучыню. Змагар ва ўсе часы, праз якія правёў яго лёс па зямной дарозе. І ён годна прайшоў праз усе выпрабаванні, што выпалі на яго долю — і ў дні вайны, і ў дні міру.*

*Нягучны, сціплы хлопец з глыбінкі — Вушаччыны, цудам ацалелы ў пякельным агні салдат стаў сусветна вядомым пісьменнікам, які праклаў новыя шляхі ў літаратуры. Яго неадольнай зброяй і ў мірныя часы была толькі **Праўда**. Праўда, якую да яго ніхто не здолеў так глыбока спасцігнуць і пра якую ніхто не адважыўся так па-мастацку паўнаважка сказаць.*

*Імя Быкава, слова Быкава навечна ўвайшлі ў беларускую душу і сталі духоўнай апорай у памкненні да святла.*

*Таму чорная дата 22 чэрвеня 2003 года, калі народнага пісьменніка не стала, не здолее ніколі перасіліць радаснае, гордае, упэўненае пачуццё: Васіль Быкаў быў і будзе з намі, пакуль на зямлі застанецца хоць адзін беларус!*

***(Матэрыялы, прысвечаныя дням памяці народнага пісьменніка Беларусі Васіля Уладзіміравіча Быкава, чытайце ў сённяшнім і наступным нумарах "Народнай Волі".)***

ФІНАНСЫ

## Долар будзе расці

*У бягучым годзе абменны курс беларускага рубля ў адносінах да долара знізіцца на 12—13%. Такі прагноз Нацбанк зацвердзіў у чэрвені ў рамках рашэння па рэалізацыі грашова-крэдытнай палітыкі да канца года.*

Нагадаем: вясной гэтага года кіраўніцтва Нацбанка заяўляла аб планах па плаўным зніжэнні кошту нацыянальнай валюты. На думку беларускіх эканамістаў, магчымасці улад праводзіць такую курсавую палітыку наўпрост залежаць ад крыніц атрымання знешняга фінансавання.

З улікам прыцягнення Беларуссю новых запазычанняў у Расіі афіцыйныя планы па тэмпах паслаблення беларускага рубля могуць быць дасягальнымі, лічаць эксперты.

*"Дасягненне гэтай задачы цалкам рэальна, у той жа час мэтазгоднасць гэтай задачы вельмі сумнiўная. Пры такой курсавой палітыцы мы нарошчваем разрыў паміж фактычным узроўнем абменнага курсу і тым узроўнем курсу, які мог бы збалансаваць бягучы рахунак плацежнага балансу",* — прыводзіць БелаПАН меркаванне эканаміста Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра **Дзмітрыя Крука.**

Беларускія эканамісты таксама звяртаюць увагу на тое, што пры захаванні цяперашніх тэмпаў росту спажывецкіх цэн інфляцыя па выніках года можа перавысіць велічыню дэвальвацыі. Гэта, адпаведна, можа адмоўна адбіцца на канкурэнтаздольнасці беларускага экспарту.

*"За першыя пяць месяцаў бягучага года спажывецкія цэны выраслі амаль на 9%, па выніках года інфляцыя можа скласці каля 20%. У той жа час паслабленне курсу беларускага рубля чакаецца на ўзроўні 12—13%. У выпадку, калі гэта адбудзецца* (інфляцыя апярэдзіць узровень дэвальвацыі. — **БелаПАН**), *мы зноў будзем назапашваць макраэканамічныя дысбалансы",* — лічыць эканаміст **Кацярына Барнукова.**

ПЕРАМОВЫ

# ... і радасны Макей

Калі бакі не хочуць гаварыць, пра што канкрэтна ідуць перамовы, то хаваюцца за малазмястоўнымі выразамі накшталт: "нам трэба зверыць гадзіннікі" ці "праблем у нас няма, але ёсць складанасці". Каментуючы перамовы падчас рабочага візіту ў Мінск кіраўніка МЗС Расіі **Сяргея Лаўрова**, бакі прыкрываліся менавіта такімі фразамі.

Першая прагучала перад сустрэчай Сяргея Лаўрова з беларускім кіраўніком — яе кінуў для адчэпкі журналістам сам Аляксандр Лукашэнка. Загадку пра розніцу значэнняў слоў "праблемы" і "цяжкасці" падкінуў кіраўнік беларускага МЗС **Уладзімір Макей.** А вось сам Сяргей Лаўроў гэтым разам у Мінску быў надзіва негаваркі. Спачатку ўвогуле складвалася ўражанне, што Лаўроў уцякае ад журналістаў. Так, абяцанага падыходу да прэсы пасля перамоў у МЗС не адбылося: міністры спасаліся на тое, што ім трэба тэрмінова бегчы да кіраўніка дзяржавы. І "пабеглі".

Нагадаем, што перад мінскімі сустрэчамі Лаўрова ўкраінская тэма анансавалася як адна з самых актуальных на перамовах. Але ўчора перад тэлекамерамі афіцыйныя асобы старанна рабілі выгляд, што яе амаль не існуе. Прычым цікава, што менавіта ў панядзелак ва ўкраінскіх СМІ з'явіўся аўдыёзапіс размовы паміж чалавекам, па голасе падобным на сына былога прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча, і чалавекам, па голасе падобным на Аляксандра Лукашэнку. Як вынікае з аўдыёзапісу, абмяркоўвалася сур'ёзная справа — магчымасць пераезду Віктара Януковіча ў Беларусь. Ці сапраўды адбылася такая размова альбо гэта розыгрыш, пакуль адназначна сказаць нельга. Але ў любым выпадку ўкраінскую тэму на перамовах у Мінску Сяргей Лаўроў проста не мог абмінуць. Больш за тое, напярэдадні гэтага візіту расійскія СМІ прагназавалі сур'ёзную, нават ультыматыўную інтанацыю кіраўніка свайго МЗС. Крамлю, маўляў, вельмі не падабаецца, што афіцыйны Мінск заняў "здрадніцкую" пазіцыю падтрымкі новай украінскай улады.

Ці спраўдзіўся гэты прагноз альбо аналітыкі трапілі пальцам у неба, цяжка сказаць. Публічна перамоўшчыкі старанна абыходзілі ўкраінскую тэму. Адзінае, пра што заявіў Сяргей Лаўроў, дык гэта пра тое, што яму больш няма пра што гаварыць з украінскім калегам Андрэем Дзяшчыцам (калі даслоўна, то было сказана нават здзекліва — "з персанажам па прозвішчы Дзяшчыца").

Што тычыцца астатняга парадку дня, то і тут канкрэтнай інфармацыі няшмат. Бакі дамовіліся, што восенню адбудзецца пасяджэнне Саўміна Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Гэтаксама восенню ў Мінску запланавана правесці чарговае пасяджэнне сумеснай калегіі МЗС абедзвюх краін. Абмяркавалі санкцыі Захаду, прызналі, што такая палітыка контрпрадуктыўная... Вось, напэўна, і ўсё.

Праўда, дзеля справядлівасці хацелася б адзначыць і яшчэ адну дэталь. Ніколі раней журналісты не бачылі кіраўніка беларускага МЗС Уладзіміра Макея такім вясёлым. Апошняя яго сустрэча з Сяргеем Лаўровым пацвердзіла: Уладзімір Уладзіміравіч умее быць "душкай" і ўмее смяяцца не па-дыпламатычнаму шчыра...

**Алена НОВІКАВА.**




ДАРЭЧЫ

У прэс-службе прэзідэнта Беларусі адмовіліся каментаваць інфармацыю аб тэлефоннай размове Аляксандра Лукашэнкі і сына былога прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча — Віктара Януковіча-малодшага. *"Каментарыяў няма і не будзе. Няхай гэтую інфармацыю вам каментуе той, хто яе распаўсюджвае",* — заявіў кіраўнік прэс-службы **Андрэй Папоў.**

РОЗДУМ

# Эпоха Васіля Быкава

Мне пашанцавала на знаёмствы і нават сяброўства з выдатнымі творцамі Беларусі. Часта ўспамінаю іх, і раптам з вечнасці прылятаюць самотныя словы **Івана Паўлавіча Мележа**: "*Як добра, што ты едзеш у родны куток, да бацькоў. Гэта вялікае шчасце — пабыць з імі. А мне паслязаўтра трэба кіравацца на поўдзень, лячыцца. А так не хочацца...*" Чуецца голас суседа па пад'ездзе **Пімена Емяльянавіча Панчанкі**, які са сваёй непаўторнай усмешкай жартуе: *"Сяргей, колькі шуміць пад нашымі вокнамі бярозак? Дзяліць не будзем".*

А Васіль Уладзіміравіч Быкаў некалі ўразіў мяне надзвычай шчымлівай і такой глыбінна чалавечнай фразай: *"Хораша, калі ёсць яшчэ каму сказаць: "Дабранач!"*, якая не забываецца, пастаянна ўваскрасае ў памяці.

Эпоха, у якой давялося жыць, ваяваць і працаваць народнаму пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву, 90-годдзе з дня нараджэння якога мы адзначаем, складаецца з безлічы розных, у пераважнай большасці драматычных і нават трагічных падзей. На жыццё беларусаў у XX стагоддзі моцна паўплывалі як глабальныя сусветныя катаклізмы, так і лакальныя ўнутраныя ўзрушэнні. Думаецца, што самае галоўнае тут вызначыць немагчыма. Але калі пакласці ў аснову даследавання беларускую літаратуру, то разглядаемы прамежак часу, несумненна, стаў эпохай Быкава.



(Заканчэнне на 3-й стар.)

ПАД ГРАДУСАМ

## Спёкі не будзе

*На гэтым тыдні гарачага надвор'я чакаць не даводзіцца. Па-ранейшаму будзе прахладна. Такі прагноз зрабіў сіноптык **Дзмітрый Рабаў.***

— Чакаецца актыўная дзейнасць атлантычных цыклонаў, — *гаворыць вядомы сіноптык*. — Кружачы над паўночнай часткай Еўропы, яны будуць зацягваць арктычнае паветра, утрымліваючы сырое надвор'е з частымі дажджамі і тэмпературай на 3—6 градусы ніжэй за кліматычную норму. Адным словам, надвор'е гэтых дней больш характэрнае для сярэдзіны мая...

**Вера ВІР.**

СЁННЯ

## Уладзіміру Канаплёву і Аляксандру Архіпаву агучаць прысуд

*Сёння, 17 чэрвеня, у 14 гадзін Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь будзе абвешчаны прысуд па справе былога старшыні Палаты прадстаўнікоў і намесніка Генеральнага пракурора.*

Нагадаем, што справа разглядалася за зачыненымі дзвярыма.

Крымінальную справу ў дачыненні да былога намесніка Генпракурора Беларусі распачалі пасля таго, як ён спыніў крымінальную справу супраць сына бізнесмена, які без пасведчання ехаў на матацыкле і насмерць збіў 24-гадовую дзяўчыну. Лукашэнка аб'явіў, што Архіпаў зрабіў гэта за злітак золата і бутэльку каньяку.

Канаплёва абвінавацілі ў неданясенні аб злачынстве, а Архіпава — у перавышэнні ўлады або службовых паўнамоцтваў і за атрыманне хабару. Архіпаў можа атрымаць ад 7 да 15 гадоў пазбаўлення волі, Канаплёў — грамадскія работы або штраф ці арышт да 3 месяцаў. Праўда, паведамлялася, што аднаму з абвінавачаных па гэтай справе перакваліфікавалі абвінавачванне, але каго канкрэтна гэта тычылася — Канаплёва альбо Архіпава, журналістам у судзе паведаміць адмовіліся.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ЗА РУЛЁМ



## Пераблытала педалі

*У Мінску дзяўчына на Range Rover урэзалася ў сцяну дома.*

Здарэнне адбылося ў раёне скрыжавання з вуліцай Веры Харужай. Як паведамляе onliner.by, машына Range Rover Evoque з маскоўскімі нумарамі знесла шлагбаўм, які вядзе да стаянкі, а потым урэзалася ў рог жылога дома, збіла некалькі цаглін і спынілася перад дзвярыма.

У ДАІ кажуць, што дзяўчына, якая была за рулём, не справілася з кіраваннем і пераблытала педалі. На шчасце, абышлося без пацярпелых.

РЕПЛИКА

## Анатолий ЛЕБЕДЬКО: "При таких показателях совестливые политики уходят в отставку!"

*Лидер Объединенной гражданской партии Анатолий Лебедько не успевает следить за ростом цен в белорусских магазинах.*




— Когда не влезаешь в частокол цифр, не заходишь в магазин и при этом регулярно смотришь БТ, то у твоего мировосприятия могут быть совсем другие оттенки, — *говорит политик*. — А эти самые цифры свидетельствуют о немощности правительства и провале макроэкономических показателей. В мае 2014 г. по сравнению с апрелем инфляция составила 2,2%, а по отношению к маю 2013 г. — 19%.

Что это означает для среднестатистического гражданина Беларуси, регулярно заглядывающего в торговые точки и посещающего банковские учреждения? За пять месяцев 2014 года цены на продовольственные товары выросли на 12%, на услуги — на 14%.

В январе—мае 2014 г. по сравнению с январем—маем 2013-го жилищно-коммунальные услуги подорожали почти на 60%, электроснабжение — более чем в 2 раза, газоснабжение — на 90%.

При таких показателях совестливые политики в демократических государствах уходят в отставку. Незамедлительно!

**Алина ВЕТРОВА.**

ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

## Беларусам радзей за ўсіх у свеце адмаўляюць у выдачы «шэнгена»

Паводле звестак Еўракамісіі, беларусы з'яўляюцца сусветнымі лідарамі па ліку станоўчых рашэнняў пры звароце за шэнгенскімі візамі.

У 2013 годзе былі адобраны 99,2% зваротаў за "шэнгенам", і беларусам выдалі 777.813 віз. Усяго ў 0,8% выпадкаў у візе было адмоўлена. У 2012 годзе паказчыкі былі яшчэ лепш — 99,5% адабрэнняў супраць 0,5% адмоў. Але тады было выдадзена і менш віз — 698.404, паведамляе БелаПАН.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

*Георгий **ЛЕПИН**, профессор, доктор технических наук*
*Борис **ЖЕЛИБА**, профессор, доктор экономических наук*

# Остановите строительство АЭС! Еще не поздно

АЭС — это, по нашим расчетам, предприятие, производящее электроэнергию с самой высокой себестоимостью, что делает ее использование опасным и экономически нецелесообразным. Более того, эксплуатация АЭС сопряжена с получением огромного количества опаснейших радиоактивных отходов, которые могут использоваться для изготовления атомного оружия.

С какими же целями строится АЭС у нас под Островцом? Можно назвать следующие:

1.Обеспечение страны энергией при отсутствии других источников.

2.Производство электроэнергии в коммерческих целях для продажи ее соседним странам.

Сегодня энергосистема Беларуси с учетом проводимой модернизации способна обеспечить потребности страны в тепловой и электрической энергии на обозримое будущее. Строительство атомной станции обходится во много раз дороже строительства новых или тем более модернизации существующих тепловых станций. Сроки строительства атомных станций составляют не менее восьми лет, то есть в четыре раза больше, чем тепловых. И огромные средства — никак не меньше 20 миллиардов долларов (хотя власти называют меньшую цифру) — будут заморожены на столь долгий срок! Создание же дополнительных энергетических мощностей на базе модернизации имеющихся тепловых станций и использование возобновляемых источников при гарантии полной безопасности потребуют не более двух миллиардов долларов и окупятся не более чем за 4—5 лет.

Отсюда вывод: первая из возможных целей применительно к условиям Беларуси не имеет смысла.

Размещение АЭС у самой границы с Литвой на самой неподходящей и тектонически опасной площадке подтверждает желание производить энергию для продажи соседним странам. Однако Литва, Латвия, Эстония и Польша, вступив в Евросоюз, приняли решение о пересинхронизации своих энергосетей от сети России, Беларуси и Украины на энергосеть Евросоюза. Это означает, что указанные страны не смогут покупать электроэнергию, которую предполагается производить на Белорусской АЭС. Следовательно, и вторая из возможных целей строительства АЭС в Беларуси оказалась провальной. Не по этой ли причине практически законсервировано строительство Калининградской АЭС? Следовательно, достижение второй, коммерческой, цели весьма сомнительно.

Упорное стремление нынешнего белорусского руководства продолжить в данных условиях строительство АЭС наводит на мысль о его стремлении получить в свои руки исходный материал для атомного оружия хотя бы в виде "грязной атомной бомбы". Могут сказать, что это лишь наши домыслы. Но вспомним неоднократные заявления Лукашенко о том, что он сожалеет о выводе ядерного оружия с территории Беларуси, что Запад считается только с сильными государствами (читай ядерными). Хороший пример этому — иранская ядерная программа, которая так напугала Запад. Чем не пример для подражания?

Утверждение о дешевизне (якобы) производства 1 кВт·ч на



АЭС по сравнению с тепловыми станциями — миф. В расчетах не учитывались стоимость закрытия и вывода из эксплуатации АЭС, стоимость консервации и захоронения радиоактивных отходов. Это огромные суммы и процесс на десятилетия. Выход из ядерной энергетики и консервацию АЭС начали Германия, Япония, США. Они переключаются на такие возобновляемые источники, как энергия ветра, солнца, местное древесное и биотопливо и т.д.

Да, это богатые страны, но они первыми пришли к пониманию, что атомная энергетика не только экономически невыгодна, но и крайне вредна и несет большие риски. После Чернобыльской катастрофы случилась японская Фукусима. Поняли, что затраты на безопасность и последующий вывод из эксплуатации АЭС, как говорится, будут себе дороже. Этого не хотят понимать такие страны, как Россия, Китай и некоторые другие. Заметьте, страны, как правило, с большими территориями и запасами урановой руды. Действующих АЭС, аналогичных строящейся в Беларуси по российскому проекту, в мире нигде еще нет. Следовательно, референтный вариант реактора, то есть где-то построенный и доработанный в эксплуатационных условиях, отсутствует. В этих условиях строительство такого реактора за пределами страны-разработчика считается недопустимым. И это большой дополнительный риск для Беларуси.

Абсолютно безопасных АЭС не существует, и если, не дай Бог, реактор рванет или произойдет серьезный выброс радиации, то посмотрите, соотечественники, на розу ветров. Куда дуют господствующие ветры? Точно, прямо в сторону Минска.

По утверждению одного из главных белорусских лоббистов атомной энергетики Александра Михалевича, зависимость от единственного поставщика газа — России "находится в критической зоне". Хотя замена газа, например, на польский или украинский уголь, в принципе, возможна. А вот утверждение о том, что наличие атомной станции сделает нашу энергетику менее зависимой от поставщика энергоресурсов, выглядит, мягко говоря, нелогичным и весьма сомнительным. Именно при пуске атомной станции Беларусь становится несравнимо более зависимой от России: в энергетическом плане — наряду с нефтью или газом — в виде поставок топлива для АЭС, в плане технологическом — в виде оборудования и специалистов, в плане финансовом — в виде кредита. И смягчить чем-либо эту зависимость не представляется возможным.

Сначала речь шла о кредите в 6 млрд долларов, позднее стали оценивать затраты в 9 млрд и более. Кредит придется отдавать, а вопрос "Кому Белорусская АЭС станет продавать излишки энергии?" остается открытым. Как отмечалось, ни Польша, ни страны Балтии, ни другие страны Евросоюза, ни Украина, рвущаяся в Евросоюз, покупать электроэнергию у Беларуси не просто не будут, но и не смогут. Генеральный директор "Белэнерго" Евгений Воронов в газете "Белорусы и Рынок" за 24 марта 2014 года в связи с этим обращает внимание на то, *"что европейские соседи Беларуси сейчас сориентированы на совместную работу с энергосистемой Евросоюза, поэтому они будут отказываться от работы с Россией и от импорта электроэнергии из Беларуси".* Складывающаяся сегодня международная политическая обстановка еще более усиливает этот эффект. Но реальная ситуация в энергетике Беларуси сегодня и без *"атомных вливаний"* является весьма оптимистичной. По словам Евгения Воронова, *"энергосистема страны уже несколько лет держит курс на модернизацию, благодаря чему за счет реконструкции старых и строительства новых энергетических мощностей вырабатывает все больше электроэнергии без увеличения и даже со снижением расходования топлива".*

Несомненно, разумный путь. Странно, что господину Михалевичу это не известно или не понятно. Действительно ли он столь близорук или преднамеренно пытается втянуть нас в сомнительные и очень опасные проатомные игры? На какой же *"экспорт электроэнергии"* он продолжает рассчитывать? Так для чего же строится эта станция? Выходит, что господина Михалевича не беспокоят проблемы Беларуси и ее энергетики.

Нельзя обойти вниманием весьма своеобразные размышления господина Михалевича, представленные в той же газете:

*"Три года назад были озвучены планы ряда стран, согласно которым планировался ввод в действие 5 АЭС с 10 энергоблоками в нашем регионе. Обсуждался вопрос, куда девать энергию, если все станции будут построены. Сейчас реально будет строить электростанцию только Беларусь. Поэтому наша страна имеет возможности выйти на экспорт".*

Железная логика! Только вывод не тот. Все поняли, что сбыта энергии не будет, и отказались от строительства. И лишь один этого не понял и продолжает талдычить о сбыте. Почему же мы должны страдать из-за неразумности таких горе-специалистов?!

Сторонники атомной энергетики заявляют даже, что появление атомных блоков в энергосистеме Беларуси потребует *"постепенной либерализации внутренних цен на энергоносители"* (выдержка из той же газеты). Уж не имеют ли они в виду то, что, во-первых, "атомная" электроэнергия во много раз дороже вырабатываемой на парогазовых станциях и, во-вторых, появление в энергосистеме блока мощностью в 1200 МВт потребует увеличения мощности "горячего энергорезерва", то есть источников энергии, работающих вхолостую, в четыре раза, что дополнительно повысит стоимость электроэнергии для потребителя на 15—20 процентов? Разве это нам нужно?

Есть смысл остановить саму затею строительства АЭС в нашей стране. Что имеет сегодня Беларусь, чтобы затевать строительство АЭС?

**Площадка для строительства,** на наш взгляд, выбрана без серьезного обоснования и обследования. На "выбранной площадке" в 1909 году произошло приличное землетрясение, что никак не подтверждает стабильность земной коры и отсутствие разломов. О розе ветров уже говорилось.

**Кадры.** Специалисты, имеющие даже самый минимальный опыт в проектировании столь сложного, ответственного и опасного объекта или хотя бы в контроле над проектированием, в Беларуси **отсутствуют**. Отсутствуют также кадры, имеющие опыт сооружения таких объектов, и специалисты, имеющие опыт обслуживания АЭС. Не следует забывать, что Чернобыльская катастрофа — это в первую очередь последствие низкого профессионализма работников ЧАЭС. У нас даже таких специалистов нет.

**Хранилища радиоактивных отходов отсутствуют.** Эти объекты не менее опасны, чем сами АЭС, и требуют значительных территорий и затрат, соизмеримых со строительством АЭС. Вопрос безопасного хранения радиоактивных отходов вообще принципиально нигде и никем не решен и вряд ли будет решен в обозримом будущем.

**Средства для строительства отсутствуют.** Любые кредиты — ярмо на шее страны и народа, освободиться от которого не так-то просто.

**Согласие народа на строительство АЭС отсутствует.** Должного широкого общественного обсуждения на этот счет не проводилось. Решение принято кулуарно, за спиной населения.

Ни одного момента *"за",* одни лишь *"против".* К тому же не следует сбрасывать со счетов и то, что Чернобыль для Беларуси остается злокачественной опухолью. Усиливать же эту опасность строительством АЭС, теперь уже на своей территории, просто кощунственно.

Разве столь значительные средства, которые пытаются затратить на эту АЭС, не пригодились бы в разрешении множества проблем, не решаемых именно из-за отсутствия финансирования? Нам могут возразить, что Россия выделяет кредит только на строительство АЭС и ни на что иное. Во-первых, кредит — это не подарок, а путевка к долговой яме. И если Россия на более достойные цели, например, на строительство жилья для народа, выделить кредит не пожелает, то не будет проблемой найти другого кредитора. Не секрет, что весьма выгодные предложения по строительству жилья поступали из Китая, а у них опыт в этой области очень серьезный. Если для удобства расчетов округлить затраты на АЭС до 10 млрд долларов, то можно прикинуть, что такая сумма позволит построить 100 тысяч трехкомнатных квартир, или 5 тысяч поликлиник, или несколько ГРЭС, гидро- и ветровых электростанций, множество социально-культурных объектов. Реальная же стоимость строительства станции, что подтверждается мировым опытом, например, опытом Финляндии, вероятнее всего, возрастет до 20 млрд долларов. Так что, в Беларуси уже решены все ее социальные проблемы?

Пока еще не зашли слишком далеко, следует рассмотреть возможные варианты использования имеющегося задела на Островецкой площадке для строительства иного объекта, действительно выгодного и безвредного для Беларуси. Такими объектами могли бы быть, например, завод легковых электромобилей или заводы по производству бытовой техники. Не следует забывать, что Беларусь имеет обширный опыт создания новых производственных направлений и освоения самых современных технологий.

SOS!

## З пачатку года ў Беларусі ў ДТЗ загінулі 14 дзяцей

*А траўмы атрымалі — 166.*
*Пра гэта паведамляе ўпраўленне Дзяржаўтаінспекцыі МУС.*

Аналіз аварыйнасці мінулых гадоў паказвае, што ў летні час колькасць пацярпелых дзяцей больш, чым у іншыя сезоны. Так, у чэрвені—жніўні 2012 года ў ДТЗ загінулі 13 дзяцей, у 2013 годзе — 9, палова ад усіх загінуўшых за год, перадае БелаПАН.

Нагадаем, апошняя трагедыя адбылася тры дні таму. На 9-м кіламетры аўтадарогі Орша—Межава—Дубніца паблізу вёскі Пішчалава Аршанскага раёна 39-гадовы жыхар Оршы, кіруючы аўтамабілем "Опель-Вектра", здзейсніў наезд на 13-гадовага веласіпедыста, які ехаў у спадарожным кірунку па правай абочыне. Хлопчык ад атрыманых траўмаў памёр на месцы. Вадзіцель уцёк, але падчас аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў быў затрыманы ў лясным масіве ў 23.00 супрацоўнікамі ДАІ. Паводле папярэдніх дадзеных, вадзіцель знаходзіўся ў стане ап'янення і быў пазбаўлены вадзіцельскага пасведчання за нецвярозае кіраванне аўто аж да 2017 года.



ЧУЛІ?

## Ці трапяць свінні «пад амністыю»?

*Буферныя зоны вакол свінакомплексаў прапануюць паменшыць.*

Нагадаем, што пасля ўспышкі свіной чумы ў ветэрынарныя правілы ўтрымання свіней былі ўнесены змены, у адпаведнасці з якімі трымаць гэтых жывёл у радыусе пяці кіламетраў ад свінакомплексаў забаронена. Днямі старшыня Брэсцкага аблвыканкама **Канстанцін Сумар** агучыў іншую прапанову. Ён лічыць, што буферныя зоны павінны быць скарочаны да 1 кіламетра.

— Насельніцтву трэба даць магчымасць трымаць свіней... На мой погляд, рашэнне аб пяцікіламетровай буфернай зоне некалькі надуманае, — заявіў чыноўнік.

Зараз гэтая прапанова разглядаецца беларускім урадам.

Праўда, апошнімі днямі зноў сталі прыходзіць трывожныя звесткі, якія тычацца АЧС. З некаторых вёсак Астравецкага і Верхнядзвінскага раёнаў прыйшлі звесткі аб прымусовым знішчэнні свіней. Аднак Дэпартамент ветэрынарнага нагляду пакуль не пацвярджае, што ў краіне зноў зафіксавана ўспышка АЧС.

НУ І НУ!

## Два вярблюды каштуюць амаль як адзін прымат

У 2013 годзе ў Беларусь завезлі аднаго вярблюда коштам 2500 долараў ЗША, а ў І квартале 2014-га — двух прыматаў коштам 4500 долараў ЗША.

Такія дадзеныя прыводзіць сайт Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі.

ПРОЕКТ

*Андрей ЕГОРОВ:*

## Власти консервируют Беларусь в расчете на преференции из России

*Как уже сообщалось, Белорусский институт стратегических исследований (BISS) реализует новый масштабный проект — "Реформ", рассчитанный на два года. Образно говоря, в нем возродится "Европейский диалог о модернизации". Цель проекта — создание конкретных предложений реформ в различных областях, которые будут способствовать повышению конкурентоспособности белорусского общества.*

*О новом проекте, о перспективах европейской интеграции и трансформации Беларуси рассуждает член совета проекта, директор Центра европейской трансформации политолог **Андрей ЕГОРОВ.***

**— Какие варианты трансформации Беларуси наиболее вероятны? И возможны ли они вообще?**

— Мне кажется, у власти нет никакой готовности к модернизации, никакого движения навстречу реформам не происходит.

Правда, некоторые подвижки наблюдаются в диалоге с Евросоюзом. После визита в Беларусь директора департамента России, "Восточного партнерства", Центральной Азии, регионального сотрудничества и ОБСЕ Европейской службы внешних действий **Гуннара Виганда** объявлено, что белорусское правительство с Евросоюзом готовят предложения по модернизации отдельных сфер: экономики, торговли, инвестиций.

Но в нынешних условиях невозможно говорить о масштабной трансформации страны, поскольку ситуация сегодня по-прежнему законсервирована. Делается это в расчете на получение дополнительных преференций из России: за счет реэкспорта нефтепродуктов, снижения цены на газ, поставки традиционных видов белорусской продукции на российский рынок — источников поступлений вполне достаточно.

**— Некоторые политологи считают, что в нынешних условиях для Беларуси наиболее подходит вариант финляндизации страны, который может обеспечить относительную независимость и экономическое развитие…**

— Финляндизация — не более чем формула, не наполненная конкретным содержанием. Никто из независимых экспертов не обладает возможностью продвигать свои идеи, в том числе и названную, на уровень государственной политики. Поэтому финляндизация в наших условиях — лишь оперирование интересными концепциями на уровне схоластики, не более того.

**— После подписания договора о создании Евразийского экономического союза европейские перспективы Беларуси отодвинулись на задний план. Беларусь взяла курс на построение евразийского пространства, где предусмотрено не только экономическое, но и политическое и военное сотрудничество. Как увязывается евразийская интеграция с европейскими перспективами страны?**

— Сама евразийская интеграция, несмотря на бравурные заявления высокопоставленных лиц, далека от реального процесса. Основные противоречия между участниками ЕАЭС не сняты.

На нынешнем минимальном уровне взаимоотношений с Евросоюзом никакая евразийская интеграция не может служить препятствием для отношений с ЕС. Любое, даже самое незначительное действие по развитию отношений с ЕС, будет рассматриваться как шаг вперед.

Безусловно, белорусский режим попытается и дальше балансировать между Востоком и Западом, любые проблемы на восточном направлении будут компенсироваться креном в сторону Запада. Сейчас маятник качнулся в сторону Евросоюза, диалог с ЕС набирает обороты, несмотря на наличие в Беларуси политзаключенных. И происходит этот процесс параллельно с евразийской интеграцией.

Если вдруг в перспективе встанет вопрос об ассоциации Беларуси с Евросоюзом, тогда возможно появление противоречий с ЕАЭС, прежде всего в политическом плане. Как это произошло с Украиной, которая прошлой осенью выказала готовность подписать соглашение об ассоциации с ЕС.

**— Ожидания, что после вливания Украины в европейскую семью Беларусь получит новый импульс для развития белорусско-европейских отношений, похоже, не оправдались…**

— То, что происходит в Украине, — только начало процесса. Политическая часть соглашения об ассоциации подписана, но Украина стоит на пороге очень серьезных реформ, которые должны состояться в соответствии с логикой подписанных соглашений. Успешность-неуспешность реформ, степень европеизации Украины будут влиять и на Беларусь. Белорусское общество увидит, есть польза или нет от движения Украины в сторону Европы.

Пока же Беларусь остается последним союзником России на Западе, что ведет к продолжению спекуляций статусом "последнего политического союзника России" и получению за это преференций. Вот это сегодня единственный результат украинских событий для Беларуси.

**Владимир ЖУРАВОК.**

РЭЗАНАНС

## Абаронцы Курапатаў супраць Генпракуратуры

*У судзе Цэнтральнага раёна сталіцы знаходзіцца калектыўны пазоў прадстаўнікоў грамадскасці — старшыні "Хрысціянскага згуртавання "Курапаты" **Вацлава Нямковіча**, старшыні Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій **Зінаіды Тарасевіч**, грамадскіх дзеячаў **Вацлава Арэшкі**, **Вінцука Вячоркі** і **Алеся Макаева**.*

Заяўнікі просяць суд абавязаць Генеральную пракуратуру зрабіць захады для выпраўлення парушэнняў заканадаўства аб ахове Курапатаў з боку СТАА "БелРэстІнвест". Яны просяць таксама вынесці чатыры будынкі аб'екта прыдарожнага сэрвісу пад назвай "Бульбаш-хол" з тэрыторыі ахоўнай зоны мемарыяла "Курапаты". Цікава, што прадстаўнікі грамадскасці просяць, каб Мінскі аблвыканкам выканаў прадстаўленне той самай Генпракуратуры ад 27 лістапада 2012 года.

Судовая цяжба доўжыцца з пачатку вясны. Тады суддзя **Іван Майсейчык** адмовіўся нават разглядаць заяву абаронцаў Курапатаў. Але потым суд вышэйшай інстанцыі стаў на бок абаронцаў Курапатаў і пастанавіў аднавіць справу заяўнікаў супраць Генеральнай пракуратуры.

Абаронцы народнага мемарыяла не аднойчы звярталіся ў судовыя органы, пракуратуру і міліцыю. Большасць зваротаў тычылася актаў вандалізму, якія час ад часу адбываліся ў Курапатах. Цяпер рэакцыю грамадскасці выклікала будаўніцтва забаўляльнага цэнтра і аб'ектаў харчавання побач з могілкамі. Разглядаць пазоў супраць Генпракуратуры будзе суддзя Іван Майсейчык 26 чэрвеня.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ФОТАФАКТ

## «Урачыста клянуся...»

У мінулую суботу ў вайсковых часцях і злучэннях навабранцы прымалі прысягу. У Жодзіне, напрыклад, на гэтае мерапрыемства да маладых воінаў-аўтамабілістаў прыехаў намеснік міністра абароны генерал-маёр **Віталь Кірэеў.** Відавочцы, аднак, асаблівую ўвагу звярнулі вось на што.

Па-першае, на мерапрыемстве прысутнічаў не толькі праваслаўны святар, але і каталіцкі ксёндз. Чаго раней не было.

Па-другое, амаль палова навабранцаў прымалі прысягу не на рускай, а на роднай беларускай мове.

Цікава, што многія з прысутных нават не ведалі, што тэкст прысягі па-беларуску існуе і афіцыйна зацверджаны Міністэрствам абароны. Вось ён:

*"Я, грамадзянін Рэспублікі Беларусь (прозвішча, імя, імя па бацьку), урачыста клянуся быць адданым свайму народу, свята трымацца Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, выконваць патрабаванні воінскіх статутаў і загады камандзіраў і начальнікаў.*

*Клянуся дастойна выконваць воінскі абавязак, мужна і самааддана абараняць незалежнасць, тэрытарыяльную цэласнасць і канстытуцыйны лад Рэспублікі Беларусь".*



Як паведамляе Міністэрства абароны, усяго па краіне 14 чэрвеня прысягу прынялі больш за 6500 маладых людзей, прызваных на тэрміновую ваенную службу, і 1000 — прызваных на службу ў рэзерве.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
17 ЧЭРВЕНЯ 2014 г.

АПАВЯДАННЕ

Васіль БЫКАЎ

# Палкаводзец

Як вядома, кепская навіна не ходзіць адна, за ёй бяжыць другая. Гэтая другая дагнала Палкаводца па дарозе ў гаспадарку Мельнікава. У таго Мельнікава не заладзілася з самага пачатку, палкі не маглі адарвацца ад дняпроўскага берагу, суседзі здорава выскачылі наперад, на правым флангу ўзялі горад, за які ўчора Палкаводца віншаваў Галоўнакамандуючы. Але толькі Палкаводзец выехаў зь сяла, як з КП па рацыі перадалі: на правым флангу няўстойка, немцы контратакавалі буйнымі сіламі, адкінулі пяхоту за рэчку. Палкаводзец паўзіраўся ў карту і загадаў паварочваць на ракадную дарогу — ехаць на правы фланг. Учуўшы новы загад, два ягоныя ад'ютанты, маладыя статныя палкоўнікі, перадалі яго сігналамі астатнім машынам — бронетранспарцёру з аховай і крытай бартавой з трыбуналам, якія заўжды суправаджалі Палкаводца. Уся невялічкая калона пачала таропка разварочвацца на разбітым, цесным і гразкім прасёлку. У “вілісе” ўсе маўчалі. Маўчаў, сцяўшы квадратныя сківіцы, Палкаводзец, маўчалі ад'ютанты, прадчуваючы, што іх чакае. Не выключана, што Палкаводзец хутка ўскочыць у самае пекла і жалезнай рукой... У ягонай жалезнай руцэ яны ўжо мелі магчымасць пераканацца...

Куляючыся па выбоінах, трохі разганяючыся на роўнядзі і выскокваючы на невысокія, парослыя драбналессем пагоркі, “віліс”, транспарцёр і бартавая каціліся насустрач недалёкай баявой калатнечы, якую ўжо не магло заглушыць і натужлівае выццё іхных матораў, хутка стала чуваць, што бой грымеў побач, дзесь за ляском, дзе, як сведчыла карта ў руках Палкаводца, сярод шырокага поплаву працякала крывулякарачулка. Хто мог падумаць, што нямецкія танкі менавіта тут і ўдараць, — думаў Палкаводзец. Не хапала ім роўнядзі, ці што? Ці ўжо навучыліся ў нас, нашай азіяцкай кемлівасці? Але ўдарылі менавіта тут, у гэтым зусім мала здатным для таго месцы. І, як на бяду, фронт на гэтым участку аказаўся слабаваты, учора брыгаду Чарамісіна перакінулі ў цэнтр, на падмогу перадавому атраду; тут жа заставаўся адзін супрацьтанкавы полк, і той, здаецца, размяшчаўся трохі правей. А пяхоце без падмацунку, вядома, прыйшлося не соладка, і яна не стрывала. Такое яе прадвызначэнне на ўсякай вайне і ва ўсякай арміі.

“Віліс” выскачыў на пясчаны пагорачак, парослы рэдкім маладым сасоннічкам, і адразу ж рэзка кінуўся ўбок, коламі з хрустам ломячы тыя сасонкі. Палкаводзец знячэўку вылаяўся, ледзьве паспеўшы ўхапіцца рукой у пальчатцы за металёвую дугу перад сабой. Аднак ён тут жа зразумеў, што лаяцца марна, усё правільна. Па сасонніку ўжо джагалі чэргі, трэба было матаць назад або выскокваць і класціся долу. Палкаводзец і выскачыў. Трохі счакаў, а пасля, прыгінаючыся, выбег вышэй і апусціўся на сухі верасовы дол. Перад ім наперадзе разгортвалася шырокая панарама надрэчнага поплава і з ёй — ганебнае відовішча бязладнага драпу. Колькі ўжо за вайну даводзілася назіраць Палкаводцу гэтую ганьбу, але прывыкнуць да яе ён не мог і звычайна без вагання карыстаўся выпрабаваным сродкам. На ашаломленых, апанаваных страхам людзей можна было ўздзейнічаць толькі яшчэ большым страхам з усіх страхаў, якія меліся ў распараджэнні начальніка. Наша пяхота бегла, уцякала да рэчкі, караскалася цераз яе берагі, некаторыя ўжо былі блізка ад пагорка на гэтым беразе. На рачным беражку сярод лазняку дымна палыхаў адзін скасабочаны “студэбекер”, там запалохана мітусіліся людзі. Другі, аднак, выкараскаўся з твані і з гарматай на прычэпе марудна поўз да пагорка. На ягонай падножцы стаяў чалавек у гімнасцёрцы, без шыняля, з абвязанай бінтамі галавой. Ці не камандзір супрацьтанкавай батарэі, — падумаў Палкаводзец. Той нешта крычаў, мабыць, паказваючы шафёру кірунак. Ззаду, з-за ракі, з розных напрамкаў несліся трасірныя чэргі, на рыкашэтах агнянымі пчоламі разлятаючыся ў бакі. Палкаводзец, не азірнуўшыся, кінуў цераз плячо ахове: “Затрымаць!”, і некалькі байцоў на чале са старэйшым сяржантам кінуліся праз сасоннік з пагорка.

Пакуль тыя сарванымі галасамі спынялі пяхоту, Палкаводзец узіраўся ў поплаў і асабліва далей, па той бок рэчкі, дзе з ляска выпаўзалі светла-жоўтыя нямецкія танкі. Палкаводзец ужо сустракаўся з імі і ведаў, што гэта ён рашучымі дзеяннямі свайго войска змусіў нямецкае камандаванне перакінуць іх з Афрыкі, дзеля якой яны і былі афарбаваныя ў колер пустыні. Але тут ім не пустыня, тут найчасцей балоты. Раз-пораз яны білі з гарматаў па берагах ракі і па пехацінцах па гэты бок. Ад выбухаў калаціўся пагорак...

Поруч і асабліва ззаду за Палкаводцам з насцярожаным выразам на тварах ляжала чалавек дзесяць з аховы, трошкі ніжэй прыбег і выцягся пад сасонкай старшыня вайсковага трыбуналу — франтавы маёр, скрозь абпярэзаны партупеямі і рамянямі, з фуражкай на галаве. За ім ужо расшпільваў тоўстую сумку ягоны сакратар, малады чалавек у плашч-накідцы. Той усё пазіраў на Палкаводца, пальцы яго дрыжэлі, і ён кепска спраўляўся з сумкай. Яны чакалі. Ужо не першы раз яны выязджалі з Палкаводцам і ведалі сваю справу. Тым болей што гэта была іх праца, якую яны рабілі, рызыкуючы ўласным жыццём. Блізкія два выбухі ў сасонніку змусілі іх тыкнуцца галовамі ў дол, Палкаводзец жа на выбухі не адрэагаваў ніяк. Ён назіраў за тым, што адбываецца на поплаве.

Здаецца, байцы аховы ўсё ж затрымалі пярэдніх бегуноў і неўзабаве вывелі з сасонніку двух задыханых, перапалоханых пехацінцаў з даўгімі трохлінейкамі і прымкнёнымі да іх штыхамі. Неяк выкараскаўшыся з-пад агню, ўратаваўшыся ад нямецкіх танкаў, тыя, падобна, мала разумелі, што адбываецца, навошта яны спатрэбіліся гэтаму камандзіру з суровым зацятым тварам. “Пачаму бяжалі? — строга кінуў Палкаводзец, нішчачы позіркам абодвух — высокага і нізенькага, амаль мізэрнага салдаціка ў аблепленых тваннню абмотках. — Пачаму бяжалі?” Пехацінцы ашалела дыхалі і маўчалі, тады Палкаводзец махнуў рукой — не так ім, як камусь з аховы: “Здаць аружыя!”

Мабыць, то быў пэўны сігнал, двое ў бушлатах з аховы вырвалі ў байцоў вінтоўкі і люта штурханулі абодвух. Меншы адразу ўпаў, штосьці заякатаўшы, а большы пачаў бязглузда, спалохана мовіць: “Што, што?” З гэтым “што” іх і затаўклі ў сасоннічак, далей ад вачэй Палкаводца, адкуль яны ўжо не паказаліся.

Тым часам старэйшы сяржант з аховы прывёў да Палкаводца і афіцэра са “студэбекера”. Паранены, з абвязанай галавой, на сваю бяду ратуючы гармату, той перабраўся цераз рэчку, як яму, мабыць, здавалася, на выратоўчы пагорачак. То быў старэйшы лейтэнант з ордэнам Айчыннай вайны на грудзях і перакручанай дзягай, на якой матлялася, відаць, пустая ўжо кабура. Згледзеўшы Палкаводца, ён паспрабаваў аддаць рапарт:

— Таварыш камандуючы...

Палкаводзец перабіў яго тонам, ад якога зацінала мову не толькі ў камбатаў:

— Дзе батарэя?

— Батарэя загінула, таварыш ка...

— Ах, загінула? — зусім ужо вызверыўся Палкаводзец. — А чаму ты, гаўнюк, не загінуў?

— Ды я...

— Дакументы!

Бруднымі ад твані і свежай крыві рукамі старэйшы лейтэнант расшпіліў гузік гімнасцёркі і дастаў некалькі кніжачак — афіцэрскае пасведчанне, партбілет, рэчавую кніжку. Іх у яго тут жа выхапіў старэйшы сяржант, перадаў трыбунальцам.

— Расстраляць! — халодна кінуў Палкаводзец.

— Таварыш камандуючы!.. — сіпавата выгукнуў афіцэр і асекся — Палкаводзец ужо азіраў поплаў, а старэйшы сяржант ускінуў да грудзей новенькі варанёны, з ражковым магазінам ППС, якія толькі што прыбылі на фронт і якімі ў першую чаргу ўзброілі ўчора ахову Палкаводца. Старэйшы сяржант адвёў камбата ў сасоннічак, дзе неўзабаве ляснуў нягучны адзіночны стрэл.

Старшыня трыбуналу і сакратар між тым ліхаманкава афармлялі пастанову. Шапка бланку судовага разгляду была ў іх нарыхтаваная загадзя, заставалася ўпісаць канкрэтныя прозвішчы і штосьць дапасаваць адно да аднаго. Лежачы, маёр нахіліўся бліжэй да сакратара, які яму зачытаў: “Вайсковы трыбунал вайсковай часці нумар... у адкрытым пасяджэнні разгледзеў справу па абвінавачанню... Як яго там?”

— Старэйшага лейтэнанта Бязуглава, — падказаў маёр, зазірнуўшы ў пасведчанне. — А таксама радавых Андрэева і Цявелька...

— Андрэева і Цявелька, — пішучы, паўтарыў сакратар. — І прысудзіў памянёных да...

— Да вышэйшай меры пакарання, — падказаў маёр.

— Прысуд... — вымавіў сакратар.

— ...Прыведзены ў выкананне, — трывожна азірнуўшыся, падказаў маёр. Ён, відаць па ўсім, пачаў спяшацца: справы іхныя на гэтым месцы ці не канчаліся. Тым болей што нямецкія танкі, мабыць, падышлі ўжо да рачулкі — нешта дужа дрыжэла ўнізе пагорка. У той час і сапраўды грымнула дужа блізка — на верасок і хвойкі сыпанула зямлёй і пылам, абсыпала фуражку і плечы Палкаводца, паперы трыбунальцаў, якія сакратар не паспеў засланіць. Энергічным рухам Палкаводзец страсянуў з сябе пясок і ўскочыў.

— Ну, вы гатовыя там?

— Так точна! — ускочыў маёр.

— Усім да машынаў! — кінуў Палкаводзец і таропка падаўся з пагорка да свайго “віліса”. За ім падхапіліся трыбунальцы з байцамі аховы, усе дружна сыпанулі з хвойніку да дарогі.

На тым месцы, дзе яны толькі што мясціліся, застаўся стаптаны, абсыпаны пяском верасок ды дзве кінутыя з прымкнёнымі штыхамі драгункі. Здалёку праз голле маладых сасонак праглядвала штосьць белае — ці не бінт на скрываўленай галаве няўдалага камбата. З поплаву даносілася дружная страляніна, мабыць, там усё ж ладзілася якая-ніякая абарона.

Камандуючы навёў парадак — нямецкія танкі тут не прайшлі.

ШЧЫРА

## Нам яго не хапае...

Чытаючы і перачытваючы яго творы пра мінулую вайну, я ўсё больш пераконваюся, што такія аповесці Быкава, як “Мёртвым не баліць”, “Праклятая вышыня”, “Апошні баец”, “Дажыць да світання” і іншыя, адкрыта і праўдзіва апавядаюць перш за ўсё аб нашых радавых байцах, якія, асабліва ў першыя дні вайны, у шынялях і з вінтоўкамі ў руках змагаліся з захопнікамі. І за сваё жыццё, і за кожную пядзю роднай зямлі. Змагаліся ў вельмі складаных умовах, гінучы тысячамі.

Вядома, так пісаць пра бітвы і будні ваенных гадоў мог толькі чалавек, які сам быў непасрэдным яе ўдзельнікам. Хто ўсе нягоды і жахі вайны не толькі бачыў на свае вочы, але і адчуў сваім целам, будучы двойчы параненым. За баявыя заслугі Быкаў быў узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Вайну скончыў у званні капітана.

Да гэтага часу дакладная лічба загінуўшых у Вялікай Айчыннай вайне яшчэ высвятляецца, хоць вядома, што гаворка ідзе пра дзясяткі мільёнаў. Думаю, мы да гэтага часу, нягледзячы на ўрокі мінулай вайны і чарнобыльскай катастрофы, не ўсвядомілі каштоўнасць кожнага чалавечага жыцця.

Васіль Уладзіміравіч быў выдатным і дзіўным чалавекам, ён і пражыў сваё жыццё мужна і з вялікай чалавечай годнасцю. Ён вучыў нас казаць праўду, якой бы горкай яна ні была. Велізарны чалавечы дзякуй яму і нізкі паклон! Нам яго не хапае. На жаль, я асабіста з ім знаёмы не быў, але як і многія, лічу яго Асобай.

**Юрый СЯДЫ,**
**капітан у адстаўцы.**

БЫЛО

## Напісанае застаецца

Яшчэ было далёка да спавядальнай мемуарнай кнігі Васіля Быкава “Доўгая дарога дадому...”.

Дагарала лета 1968 года. На той час дом Быкава быў у Горадні (так звычайна Васіль Уладзіміравіч называў горад Гродна). Менавіта там, у горадзе на берагах Нёмана, адбылася адна выпадковая сустрэча.

Да мяне, у тыя гады ўласнага карэспандэнта газеты “Знамя юности” па Гродзенскай вобласці, прыехаў загадчык аддзела рэдакцыі Валодзя Левін. Мы крочылі ад чыгуначнага вакзала па вуліцы Элізы Ажэшка, а насустрач нам — пісьменнік Васіль Быкаў і ягоны госць, таксама з Мінска, паэт Рыгор Барадулін.

Спыніліся, пазнаёміліся, павіталіся.

Пасля ўчацвярох шпацыравалі па ціхіх вулачках Гродна, збочылі да Каложскай царквы, да берага Нёмана. Гаворка ішла пра рознае: пра мясцовыя краявіды, пра лірыку і “вайсковую” прозу; прыгадвалі нашых агульных знаёмых... Не абмінулі мы, канечне ж, і падзеі, якія тады не сыходзілі з вуснаў: увод савецкіх войскаў на тэрыторыю ЧССР, грукатанне танкаў на вуліцах Прагі...

Саліравалі ў размове мінчукі Рыгор і Валодзя, а Васілю і мне, гарадзенцам, адводзілася, так бы мовіць, роля слухачоў, мы, дарэчы, і не пярэчылі.

Здарылася так, што тая даўняя сустрэча ў Гродне займела нечаканы працяг амаль праз чвэрць стагоддзя.

На тую пару Васіль Быкаў ужо жыў у беларускай сталіцы. Змяніў месца жыхарства і пераехаў з Гродна ў Мінск і я, працаваў у рэдакцыі часопіса “Беларусь”. Валодзя Левін з сям'ёй падаўся ў Амерыку, дакладней у Нью-Ёрк, дзе ўладкаваўся на працу ў часопіс “Vestnik”.

Напрадвесні непрадказальнага 1994 года (у незалежнай Беларусі набліжаліся першыя прэзідэнцкія выбары) я атрымаў ліст з Нью-Ёрка. Валодзя пісаў: *“Дружа, выручай! Рыхтую артыкул, прымеркаваны да 70-х угодкаў з дня нараджэння франтавіка, сусветна вядомага пісьменніка і выдатнага сына Беларусі Васіля Быкава. Шмат ведаю пра яго лёс, але ж адчуваю: нечага не хапае, каб стварыць ягоны творчы партрэт. Адшукай, калі ласка, Васіля Уладзіміравіча і папрасі яго адрасаваць хоць некалькі радкоў чытачам амерыканскага часопіса...”*

Нейкі час я вагаўся, перш чым набраць нумар хатняга тэлефона Васіля Уладзіміравіча.

— Слухаю! — пачуўся знаёмы ціхі голас.

Прадстаўляюся, а ў адказ:

— Ну, гэта ўжо залішне афіцыйна... Мы ж знаёмыя недзе з сярэдзіны шасцідзясятых...

За словам слова... Адчуваю, што наспела хвіліна пераадрасаваць тэлефоннаму суразмоўцу просьбу Валодзі.

— Ведаю, вы ўсё-ткі чалавек заняты, — пачынаю здалёк. — Але ж мой калега журналіст Валодзя Левін хацеў бы атрымаць ад вас слоўца да чытачоў амерыканскага часопіса “Vestnik”.

— О, Левіна я памятаю... Чуў ад Рыгора Барадуліна, што твой сябра жыве цяперака ў Нью-Ёрку. А наконт ягонай просьбы... Яна для мяне нечаканая...

І праз паўзу:

— Колькі часу даеш мне на роздум?

— Дык усё ад вас залежыць, Васіль Уладзіміравіч, — спрабую ўхіліцца ад адказу я.

На другі дзень пасля таго вечаровага тэлефанавання, як толькі я з'явіўся ў рэдакцыі, машыністка Алена сустрэла навіной:

— Гэта ж трэба! Хвілін мо з дзесяць таму ты размінуўся з Быкавым... Ён спяшаўся і прасіў перадаць табе канверт...

Не без хвалявання дастаў з канверта ліст са знакамітым быкаўскім почыркам. Вось фрагмент невялікага памерам братняга вітання Васіля Быкава далёкім суайчыннікам. Я прачытаў яго тады, а вы прачытаеце цяперака ўжо са старонкі амерыканскага часопіса “Vestnik”, які пабачыў свет 28 чэрвеня 1994 года:



...старых капэсэсовских с...р?! Если можно это сделать через ваш журнал, то я хотел бы послать вам, дорогие далекие соотечественники, слова братского ...зни. Мы ра... ...ого века хоть вам посчастливилось на этом свете – пожалуй, больше, чем нам, оставшимся прозябать на нашей милой и родной, давно порабощенной земле. Будьте счастливы!

Хачу даслаць вам, дарагія далёкія суайчыньнікі, словы братняга вітаньня і найлепшыя пажаданьні ў вашым жыцьці. Мы рады таму, што напрыканцы XX стагодзьдзя хоць вам пашанцавала на гэтым сьвеце — прынамсі болей, чым нам, што засталіся гібець на нашай мілай і роднай, даўно заняволенай зямлі.
Будзьце шчасьлівыя!
Васіль Быкаў

Вниманию ... Фирма ...

Напісанае застаецца. І застаецца актуальным і сёння.

Перачытваю фрагмент таго вітання амерыканскім чытачам, і мяне агортвае смутак: Васіля Уладзіміравіча Быкава няма з намі, і ніколі нічога ён больш ужо не напіша...

**Іосіф КАЛЮТА.**

РОЗДУМ

## Эпоха Васіля Быкава

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Кожны народ стварае і цэментуе не эканоміка, не ідэалогія, а найперш родная мова і напісаная на ёй літаратура, у шырокім сэнсе — нацыянальная культура. Чым далей жыву на свеце, тым усё больш пераконваюся ў справядлівасці такога даўняга сцвярджэння.

Творчасць Васіля Быкава ахапіла і асэнсавала значны перыяд айчыннай гісторыі, якая, як вядома, пішацца начыста. Хоць слова “начыста” ў нашым выпадку ніяк не падыходзіць для ацэнкі.

На вайне, якая ўцягнула ў свой страшны вір ушацкага хлопца, быў не толькі гераізм, але і кроў, і боль, і бруд, і пакуты, і здрада... Пасля заканчэння Саратаўскага артылерыйскага вучылішча і прысваення звання малодшага лейтэнанта Васіль Быкаў у кастрычніку 1943 года трапіў на фронт, хоць першы бой яшчэ апалчэнцам ён прыняў на пачатку вайны пад Харкавам. Каля вёскі Вялікая Севярынка пад Кіраваградам у студзені 1944 года ў цяжкім баі з фашыстамі будучы вялікі беларускі пісьменнік мог загінуць...

У 2005 годзе я стаяў над незааранаю ні плугам, ні часам траншэяй, краі якой прашыла густая трава, змацавалі карані пышных кустоў бэзу. Крыху далей былі акопы. Яны таксама ясна праглядваліся, хоць і маскіраваліся зялёным дыванам стэпавага разнатраўя. За спінай віднеліся старыя могілкі. Справа — адхон, рачулка, а далей плыў за далягляд, зліваючыся з небам, бяскрайні стэп. У памяці сам сабой праступіў адзін радок з аповесці Васіля Быкава “Мёртвым не баліць”: *“У вячэрнім сутонні над заснежаным стэпам вее саладкаватым, надзіва духмяным і дамавітым дымком махоркі”.* Ва ўсім гэтым трагічным, бязлітасным у сваёй праўдзе творы болей не знойдзецца ніводнай такой спакойнай, нейтральнай фразы. Гэтае адкрыццё ўразіла мяне яшчэ ў 1966 годзе, калі студэнтам прачытаў аповесць, якая перавярнула душу, адкрыла зусім іншую вайну, ні ў чым не падобную да той псеўдагераізаванай, шапказакідальніцкай, што навязвала прапаганда...

У ваенных аповесцях гераічная тэма раскрываецца Васілём Быкавым не праз панарамныя баталіі, а праз лёсы людзей. Кожнаму вайскоўцу даводзіцца праходзіць выпрабаванне на мяжы, а часта і па-за межамі магчымага, і тады яскрава выяўляецца сапраўдная сутнасць чалавека.

Быкаў добра ведаў неймаверна цяжкую цану Перамогі. Таму ён не прымаў мілітарызацыю мірнага жыцця, асуджаў эксплуатацыю сучаснымі палітыкамі ваеннага мінулага, гераізму людзей для ўласнага самасцвярджэння.

Паралельна з распрацоўкай ваеннай тэмы пісьменнік асэнсоўваў ранейшы час. Самымі злавеснымі былі гады сталінскіх рэпрэсій, калектывізацыі вёскі, якія набрынялі крывёю бязвінных ахвяр, увабралі ў сябе столькі людской подласці, маральнага бруду, беспадстаўнай жорсткасці, нянавісці, што, чытаючы дакументы таго часу — ад садысцкіх рэзалюцый “бацькі ўсіх народаў” да даносаў маленькіх людзей “з нізоў”, можна звар'яцець. У кнізе ўспамінаў “Доўгая дарога дадому” Быкаў піша: *“Жалезнай хадой ішло раскулачваньне. Раскулачылі селяніна, у якога была карова зь цялушкай. Ва ўсіх па адной карове, а ў гэтага — зь цялушкай. Другога раскулачылі за тое, што ўлетку пляменьніца памагала жаць жыта. Значыць — наёмная сіла. І трэцяга — як сабатажніка. Не хацеў уступаць у калгас, упіраўся”.* Народная трагедыя, наступствы якой даводзіцца пераадольваць яшчэ і сёння, з вялікай мастацкай сілай паўстала ў аповесцях “Аблава”, “Знак бяды”.

Шмат увагі надаваў пісьменнік новым рэаліям у суверэннай краіне. Ён падкрэсліваў: “*Хоць беларусы ў значнай меры — нацыя нерэалізаваных магчымасцей, затарможаных грамадскіх рэфлексаў, нацыя тугадумаў, але хочацца верыць: мы не заўсёды былі такія. У гістарычным маштабе часу мы нядаўна такімі сталі. Мы былі інакшыя. І цяпер займелі намер адрадзіцца ў нашай спрадвечнай нацыянальнай сутнасці. У тым, апроч іншага, мы маем вялікія спадзяванні на нашу гісторыю, якая, як вядома, не толькі люстэрка жыцця грамадства, але і пэўны алгарытм яго будучыні. Менавіта гісторыя, Бог ці выпадак падарылі нам новы шанц. Можа, з іхняй асаблівай любові да нас”.*

На жаль, дадзены шанц беларусамі не рэалізуецца. Паўтараць памылкі, наступаць на старыя граблі — гэта звычайная завядзёнка ў чалавечым жыцці. Нічога дзіўнага тут няма. Людзі не ўмеюць і не хочуць вучыцца ні на чужых, ні на сваіх памылках. Таму шкада, калі чалавек раз за разам робіць глупствы і страчвае інстынкт самазахавання, бо і ягоны канкрэтны лёс — унікальны. Але заняпад аднаго асобнага чалавека — гэта драма, ды яшчэ не трагедыя. Зусім інакш выглядае паўтарэнне ганебных памылак цэлым народам, калі ён не ўцякае ад прорвы самазнішчэння, а наадварот — паўзе да краю і нават ужо зазірае за край. Недарэчнасць гэтай сітуацыі пісьменнік асэнсаваў у дзясятках аповесцяў, апавяданняў, прыпавесцяў, публіцыстычных артыкулаў і паказаў, якім можа быць выйсце з бяды. Мастацкая магічнасць прозы Васіля Быкава грунтуецца на даўняй і простай ісціне — чалавек павінен пачуць і зразумець другога чалавека. Ён адчуваў сваю нацыю нутром, на ўзроўні крыві.

Вялікі паэт і выдатны рэдактар часопіса “Новый мир” А.Твардоўскі высока цаніў талент Быкава і падтрымаў яго ў цяжкі час ганенняў ёмкім радком: *“Все минется, а правда останется”.* Так і сталася.

Але праўда Быкава няпроста становіцца нашай агульнай ісцінай. Сёння ў незалежнай краіне беларускі свет зведзены да мізэрных памераў. Частка суайчыннікаў гэта разумее, скаланаецца ад крыўды і знявагі ўсёй душою. Аднак многія грамадзяне не саспелі да таго, каб вяртацца ў свой родны дом, мацаваць і памнажаць беларускасць. Наадварот, яны агрэсіўна разбураюць свае святыні.

З гэтай прычыны пісьменніку на самым ускрайку жыцця давялося з'ехаць з роднай зямлі. І зноў трэба сказаць удзячнае слова тым добрым людзям, якія прытулялі Васіля Быкава ў Фінляндыі, Германіі, Чэхіі, далі магчымасць жыць і пісаць новыя творы ў больш-менш спакойнай атмасферы, без пастаянных наскокаў і паклёпаў, як было дома.

Адной сваёй прысутнасцю ў гэтым свеце Васіль Быкаў дапамагаў вельмі многім людзям. Мне пашанцавала больш, бо напоўніцу зведаў яго дабрыню і сяброўскую пяшчоту. У 1989 годзе у дарчым надпісе на аповесці “Воўчая зграя” ён засцерагае: *“Дарагі Сяргей, каб ведаў: воўчая зграя не страшнейшая за чалавечую. Каб цябе Бог мілаваў ад апошняй”.* А ў 1999 годзе, трагічным для Беларусі, на кнізе “На крыжах” ён напісаў: *“Сяргею Законьнікаву, зь якім разам вісець на крыжах. Такая доля! В.Быкаў”.* Гэтыя словы важней і лепей любых узнагарод!

Васіль Уладзіміравіч не разменьваў сваю душу. Ён заўсёды ахоўваў у сабе тое, што складала яго сутнасць, — нязменнае імкненне да свабоды, праўды і справядлівасці. Быкаў не дазволіў усім уладам, пры якіх яму давялося жыць і працаваць, выкарыстоўваць сябе, як парабка. Ён годна нёс неймаверна цяжкі беларускі крыж, які сваім цяжарам змог прыціснуць да зямлі, раструшчыць многіх суайчыннікаў, але толькі не яго.

У літаратурным сэнсе эпоха, у якой жыў пісьменнік, адышла. Але духоўная эпоха Васіля Быкава застаецца. Нам пашчасціла быць сведкамі таго, як нараджаліся выдатныя творы, якія, калі беларусы канчаткова не звар'яцеюць і не самаліквідуюцца, будуць служыць нашаму народу маральным абярэгам вечна.

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ.**

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Як трапіць у музей Быкава?

***За некалькі дзён да адкрыцця Дома-музея Васіля Быкава карэспандэнт “Народнай Волі” пацікавіўся, чым музейшчыкі збіраюцца прываблiваць наведвальнікаў.***

### А дзе гэта?

Адна з першых праблем, з якой сутыкнуцца турысты, што ў адзіночку, без экскурсавода паспрабуюць трапіць у музей Васіля Быкава, — гэта як знайсці новы музей? Дача пісьменніка, якую яшчэ ў 2012 годзе ягоная ўдава Ірына Міхайлаўна падарыла дзяржаве, знаходзіцца ў 14 кіламетрах ад Мінска — у пасёлку Ждановічы-6. І калі канкрэтна не ведаць, дзе гэта, дык прыйдзецца добра паблукаць.

Пакуль да будучага музея можна дабрацца толькі на прыгарадным аўтобусе, які ідзе ў напрамку санаторыяў, што знаходзяцца на Мінскім моры. На аўтобусным прыпынку “Рэспубліканскі інтэрнат ветэранаў вайны і працы” пытаюся ў мясцовых дачнікаў: *“Як знайсці лецішча Васіля Быкава?”* Маладзейшыя не ведаюць, а тыя, хто векам старэйшы, гавораць, што самастойна знайсці сядзібу славутага пісьменніка не так і проста, бо дачны масіў вельмі вялікі. За тыдзень да адкрыцця музея якіх-небудзь указальнікаў, што дапамагалі б сарыентавацца, няма.

Ад аўтобуснага прыпынку па мосце пераходжу праз невялічкі канал і іду па пясчанай дарозе. Мінаю першы дачны масіў, другі, трэці... Пашчасціла сустрэць мясцовага жыхара, які дакладна ведаў, дзе знаходзіцца дача Васіля Уладзіміравіча.

*— Да вы што, якія шыльды? —* здзіўляецца пытанню мой суразмоўца. — *Ад аўтобуснага прыпынку, атрымліваецца, кіламетр-паўтара пешкі ісці трэба. Ніякіх указальнікаў тут не было. Тое, што тут жыў Быкаў, ведаю, а вось пра тое, што на ягонай дачы збіраюцца музей адкрыць, даведаўся ад вас. Хаця нейкія рамонтныя працы ў доме Быкава вяліся... Добра хоць назвы вуліц напісаны, вам на Вінаградную...*

### Вокны ад Міхаіла Мясніковіча

...Вось ён, звычайны двухпавярховы дом са светла-шэрай цэглы на Вінаграднай, 62... Да размаху, з якім, напрыклад, у Драздах будуюцца катэджы сённяшніх высокіх чыноўнікаў, лецішчу сусветна вядомага беларускага пісьменніка, прэтэндэнта на Нобелеўскую прэмію, прама скажам, далёка... Дача Васіля Быкава — гэта непасрэдна сам дом, гараж і альтанка. Вакол растуць бярозы, дубы і сосны. Іх уласнаручна садзіў Васіль Уладзіміравіч. Вось і ўся раскоша...

Дарэчы, месца пад будаўніцтва гэтага дома яшчэ ў 1980-х гадах Васіль Быкаў выбіраў сам. І непасрэдна кіраваў усімі будаўнічымі работамі. Расказваюць, што падчас будаўніцтва дома выйшла неспадзяванка: Васіль Уладзіміравіч заказаў рамы для вокнаў. Іх зрабілі, прывезлі — а яны не падышлі. З новымі вокнамі для загараднага дома пісьменніку дапамог **Міхаіл Мясніковіч**, які за савецкім часам узначальваў Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларускай ССР. Гэтыя вокны стаяць у доме Быкава і па сённяшні дзень.

Ужо калі лецішча было пабудавана, Быкаў не раз прызнаваўся, што гэта не самае ўдалае месца для таго, каб тварыць. Вось што ён пісаў на гэты конт у сваёй “Доўгай дарозе дадому”: *“Будаваў у Ждановічах дачу і думаў: буду пісаць! На другім паверсе ў цесным куточку. Між бярозак ды сосен, што ўзвышаліся над дахам, гледзячы ў двор з ружамі ўнізе. Але не пісалася мне на дачы. Усё тут перашкаджала — і размовы суседак побач, і брэх сабак, і дзіцячы галдзёж з піскам і крыкам. А то яшчэ і радыё з боку бліжэйшай дарогі”.*

### Пусты гараж

Зараз дачны ўчастак Быкава абнесены невысокім металічным плотам зялёнага колеру. Калі я прыехаў, веснічкі былі на замку, хаця дзверы ў дом адчынены — да адкрыцця музея Быкава, які стане філіялам Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, рыхтуюцца супрацоўніцы музея.

Заўважаю, што на будынку дагэтуль няма шыльды, якая паведамляла б аб тым, што тут жыў Васіль Уладзіміравіч Быкаў.

*— Шыльду яшчэ не прывезлі, —* тлумачаць супрацоўніцы музея. — *Але яна тут абавязкова з'явіцца.*

Зразумела, напрошваюся ў госці, бо вельмі хочацца першым пабачыць, што ж там унутры, што чакае турыстаў? Пакуль ідзём у дом, размова працягваецца.

*— За час, пакуль музей рыхтаваўся да адкрыцця, быў адрамантаваны дах, заменены камунікацыі, прыведзена да ладу альтанка, у якой Васіль Быкаў прымаў гасцей,* — расказваюць мне музейшчыцы.

Дарэчы, што да альтанкі, то ў ёй перабывалі многія беларускія творцы. Сюды да Васіля Быкава прыязджалі **Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Уладзімір Някляеў** і іншыя...

Заходзім у дом. Аздабленне першага паверха драўлянае, тут — гасцёўня. Стол, крэслы, камін, радыёпрыемнік... На сценах — карціны, якія былі падораны Васілю Уладзіміравічу сябрамі. Тут жа, на першым паверсе, кухня. Яе пакінулі ў тым выглядзе, якой яна была пры Быкаве, толькі крыху падрамантавалі кухонныя шафы. Дарэчы, і посуд тут застаўся ад гаспадароў. На сценах кухні малюнкі самога Васіля Уладзіміравіча — садавіна і гародніна.

На другі паверх дома вядзе драўляная лесвіца. Там знаходзіцца працоўны кабінет Васіля Уладзіміравіча і пакой Ірыны Міхайлаўны Быкавай. Але трапіць у святая святых — працоўны кабінет беларускага генія — мне не дазволілі.

*— Прабачце, але мы не можам вас туды пусціць, толькі прывезлі шкляныя стэлажы для экспазіцыі, яны будуць манціравацца...* — сказалі музейшчыцы.

Дакладна вядома, што частка экспазіцыі музея пад Мінскам будзе складацца з малюнкаў пісьменніка. Мала хто ведае, але кожны этап будаўніцтва гэтага дома Васіль Уладзіміравіч дэтальна замалёўваў. Быкаў заўсёды заставаўся верным свайму наканаванню: захаваць кожнае імгненне жыцця.

Сёння амаль ніводны музей не абыходзіцца без сучасных тэхналогій. Падчас экскурсій выкарыстоўваюць мультымедыйнае абсталяванне, шукаюць іншыя сродкі, каб зацікавіць наведвальнікаў. Вядома, што Быкаў меў “Волгу”. І, магчыма, тым, хто прыедзе на быкаўскае лецішча-музей, было б цікава сфатаграфавацца за рулём гэтага аўто. Усё ж такі гістарычная каштоўнасць! Але, як высветлілася, на быкаўскім аўтамабілі пракаціцца не ўдасца. Машына пісьменніка знаходзіцца ва ўласнасці ягонага сына і, наколькі вядома, пакуль не папоўніць музейную экспазіцыю. Таму гараж на лецішчы пісьменніка пустуе...

Так выглядае Дом-музей В.Быкава.

На першым паверсе.

***Афіцыйнае адкрыццё музея Васіля Быкава ў Ждановічах-6 запланавана на 19 чэрвеня.***

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**
**Фота аўтара.**

АКТУАЛЬНАЯ ТЕМА

# Готовы ли белорусы платить за детский сад 6 миллионов в месяц?

***Недавно заместитель премьер-министра Беларуси Анатолий Тозик сделал громкое заявление: мол, надо развивать частные детские сады, потому что государственные не могут принять всех желающих. И посетовал, что на всю Беларусь сегодня есть только 10 частных дошкольных учреждений.***

***Почему при такой востребованности частные детсады не прижились в нашей стране?***

## Детсады приравняли к барам

Стоит отметить, что частных дошкольных учреждений в Беларуси 12, а не 10, как заявил Анатолий Тозик. Девять из них работают в Минске или в столичном пригороде. Но и этого количества частных детсадов не просто мало для почти 10-миллионной страны, а очень мало, потому что, как правило, общее число воспитанников в частных детсадах не превышает 50 человек, есть учреждения, где весь детский коллектив — это 16 ребятишек. Получается, что сегодня услугами частных детских садиков пользуются всего-то около 500 белорусских семей.

Несложно догадаться, почему. Отправить малыша в частный детский сад — удовольствие не из дешевых. Родителям надо рассчитывать как минимум на 500, а иногда и на 900 долларов в месяц. Взамен они получают уверенность в том, что отдали ребенка в хорошие руки. Во всех частных садах небольшие группы — от 6 до 12 человек, комфортные бытовые условия, пятиразовое питание, занятия английским, хореографией, музыкой и т.д. и т.п. Малыши в дошкольных учреждениях проводят практически целый день — с 8.00 до 18.00. Можно найти детсад с бассейном, театральным кружком, секцией каратэ, при особом желании — за городом, в зеленой зоне.

*— Если кто-то думает, что я плачу воспитателям заоблачные зарплаты или имею какие-то немыслимые доходы, то это далеко не так,* — говорит **Ольга Деркачева,** директор учебно-педагогического комплекса “Детский сад-школа “Альтернатива”. — *Воспитатели в частных садиках получают практически столько же, сколько и в государственных, максимум это миллионов шесть. Но у них и загрузка иная: не 22 ребенка, а 6 или максимум 12.*

По словам Ольги Деркачевой, цена на услугу частных детсадов складывается из многих параграфов. Это и питание, и зарплата педагогов, и коммунальные платежи. Но самая весомая статья, как минимум 30% от того, что платят родители, — это арендная плата.

*— К сожалению, практически все частные образовательные учреждения не имеют собственных зданий,* — говорит Ольга Георгиевна, — *вынуждены их арендовать. Но ни льготного налогообложения, ни скидок по арендной плате они не имеют”.*

*— Вы не поверите, но нам аренду считают так же, как и игровым заведениям, как ресторанам, барам,* — поддерживает коллегу заместитель директора учебно-педагогического комплекса “Детский сад-школа “Возрождение” **Валентина Смелая**. — *Именно из-за высокой арендной платы в этом году мы вынуждены были закрыть детский сад, решили сконцентрировать свои усилия на развитии частной школы. Детский сад и школа у нас располагались в разных зданиях, потому что это абсолютно разные учреждения. Малышам надо организовать тихий час, а в школе шумно. В помещении детсада сделали ремонт, но, несмотря на это, все равно вынуждены были закрыться. Родители до сих пор звонят и просят, чтобы мы возобновили работу. Возможно, потому, что мы старались брать минимальную плату с родителей, в прошлом году это было 220 евро в месяц, мы ориентировались на средний класс. Но сейчас, к сожалению, из-за оплаты аренды мы отказались от детского сада.*



Справедливости ради стоит отметить, что и в тех немногих столичных частных садах, которые не арендуют здания, а имеют собственные, пребывание ребенка обходится родителям также в немалые суммы — около 600 долларов. Где действительно цены ниже, так это в областных центрах. Например, обучение в единственном в Могилеве частном детсаду “Умка Класс” стоит 2 миллиона 700 тысяч в месяц.



**Детский сад "Апельсин" имеет собственный коттедж.**



**Фото с сайта hogvard.by**

## А родители кто?

Естественно, что воспитанники частных детсадов — это дети из обеспеченных семей, зачастую известных не только в узких кругах. Но ни в одном детском садике мне не назвали ни одной фамилии, ограничиваясь лишь фразой: “Привозят детей известные бизнесмены, представители спорта, есть у нас дети дипломатов, иностранцев”.

Удивительно, что и мамы, с которыми пришлось столкнуться у порога детсада, наотрез отказывались представляться. Но о преимуществах частного дошкольного образования рассуждали:

*— Я вожу в этот садик уже своего второго ребенка,* — рассказывала мама Елена. — *Когда искали частный сад для старшего, то сменили несколько адресов. Первый садик не понравился тем, что находился в одном здании с государственным садиком. Территория вроде бы отдельная, но рядом все равно скученность людей. И кухня была одна, там готовили для наших детей и для “государственных”, хотя для наших из других продуктов. В другом садике не совсем коллектив устроил. А этот сад устраивает во всех отношениях. И дочка сама просится в садик. Она тут и танцует, и в театральной студии занята, и английский изучает. Но что самое главное (а я могу судить по опыту старшего сына) — цена полностью себя оправдывает. Потому что хорошее дошкольное образование — это фундамент будущего, который помогает ребенку налаживать отношения со сверстниками, окружающим миром.*

## Дайте льготные кредиты!

В конце июня в Министерстве образования должен пройти “круглый стол” на тему государственно-частного партнерства в дошкольном образовании. Оказывается, это будет уже не первая встреча чиновников с представителями частных детских садов. Но надо отметить, что диалог начался лишь недавно. Еще пару лет назад представители частного сектора образования сетовали на то, что государство к ним безразлично. “Палки в колеса не ставят — и ладно. А мы работаем по принципу “не высовывайся”, — звучали такие заявления. Сейчас, судя по всему, ситуация стала меняться.

*— В сентябре мы были приглашены к министру образования **Сергею Маскевичу**,* — рассказывает директор частного детсада “Апельсин” **Алла Ажар**. — *Речь шла о том, чем государство может поддержать частные сады и школы. Ведь сегодня мы от государства не получаем ни копеечки. Хотя, наверное, тоже имеем право на дотацию на каждого воспитанника. Мы, как и государственные школы и детсады, воспитываем граждан нашей страны и учим их по государственным программам. Но моя позиция такая: дайте деньги не частным садам, а родителям, как, например, поступили в России, учредив “материнский капитал”. И пусть родители сами решают, надо отдавать ребенка в частный детсад или не надо.*

Все руководители частных детсадов, с которыми довелось разговаривать, обращают внимание на одно обстоятельство: за последние годы в Беларуси не открылся ни один частный садик, хотя спрос на эту услугу есть. Все знают, что государственные садики переполнены, перегружены даже ясельные группы, а в новых столичных микрорайонах есть даже запись на очередь в детский сад.

*— Сегодня найти здание под частный сад — огромная проблема,* — говорит Валентина Смелая. — *Во-первых, даже для учебных целей взять помещение можно только через аукцион. И это отпугивает, потому что надо найти деньги, чтобы выкупить это здание, а потом еще и аренду платить. Кроме того, лишь бы какое здание под садик или школу не возьмешь. К таким помещениям санитарные и пожарные службы выставляют очень жесткие требования: там должна быть отдельная игровая площадка и условия для приготовления пищи.*

Валентина Александровна рассказывает, что первоначально их школа-сад “Возрождение” располагалась на Минском море в детском оздоровительном центре “Спутник”. Место шикарное, свежий воздух, природа. Но администрация вынуждена была искать место в городе. Потому что если вопрос с доставкой детей решался просто, их централизованно привозили на автобусе, то многим педагогам было неудобно добираться до школы.

*— Мы долго не могли найти в городе здание под нашу школу,* — говорит Валентина Смелая. — *Слава Богу, что нашли этот вариант (здание старого детского сада на ул.Ландера. —* **М.Э.)**. *Место, возможно, не престижное, рядом нет элитного жилья или коттеджных построек. Но это черта города, тихий уютный дворик.*

Все руководители частных детсадиков уверены: если государство всерьез намерено развивать этот институт, такие возможности у него есть. В первую очередь за счет предоставления преференций таким учреждениям.

*— Частные сады выгодны для государства уже потому, что освобождают государство от дополнительных затрат* и способствуют снижению загрузки государственных детсадов, — замечает Валентина Смелая. — *Плюс платят налоги, берут помещения, которые не используются государством. Мне кажется, частные сады надо освободить от уплаты арендной платы или хотя бы установить понижающий коэффициент к базовой ставке арендной платы. Можно подумать и о льготном налогообложении.*

*— На встрече с министром мы предложили открыть программу льготного кредитования для строительства частных школ,* — дополняет Алла Ажар. — *Например, наш детский сад не арендует здание у государства, в 1995 году его учредители построили коттедж специально под детский сад. Несколько лет назад был подготовлен проект строительства частной школы, но все упирается в деньги. Поэтому мы и говорили министру, что частный бизнес придет в эту сферу тогда, когда на строительство частных детских садов будут предоставляться льготные кредиты.*

— На мой взгляд, государство могло бы подумать и об открытии частных групп в государственных садиках, — высказывает свое мнение Валентина Смелая. — Думаю, что 150—200 долларов в месяц многие белорусские семьи смогут отдавать за детский сад.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ЦЕНА ВОПРОСА

## От 2,7 миллиона в месяц до 35 евро в день

*Сколько стоит месяц пребывания малыша в частных детских садах страны?*

| Название учреждения | Цена (за месяц обучения на 1 июня 2014 г.) |
|---|---|
| Детский сад **“Эко-Эл” (**Минский район) | 480 евро |
| Детский сад **“Ребенок будущего”** (Минск) | 570 долларов |
| Детский сад **“Давайте расти**” (Минск) | 35 евро в день |
| Детский сад **“Маленький принц**” (Минск) | 590 долларов |
| Детский сад—начальная школа **“Кэй-Эс-Ви”** (Минск) | 590 долларов |
| Детский сад **“Хогвард”** (Минск) | 500 долларов |
| Детский сад—начальная школа **“Апельсин”** (Минский район) | 6 миллионов |
| Детский сад **“Альтернатива”** (Минск) | 400 евро |
| Детский сад **“Папа Лис”** (Минск**)** | 5,5 миллиона |
| Детский сад **“Baby Plus” (**Брест) | 4,8 миллиона |
| Детский сад **“Монтессори”** (Брест) | 4 миллиона |
| Детский сад **“Умка Класс”** (Могилев) | 2,7 миллиона |

К слову, в государственных садах сумма оплаты варьируется сегодня от 22 до 24 тысяч рублей в день, в месяц содержание ребенка в садике обходится примерно в 500 тысяч.

ЛІКБЕЗ

## Пятроў пост: што можна есці?

*Учора ў праваслаўных вернікаў пачаўся летні, Пятроў (Апостальскі), пост.*



Пятроў пост пачынаецца праз тыдзень пасля Сёмухі — дня Святой Тройцы, а спыняецца 12 ліпеня, таму ён заўсёды мае розную працягласць. Самы доўгі Пятроў пост — шэсць тыдняў, а самы кароткі — тыдзень і адзін дзень. Гэты пост устаноўлены ў гонар Святых апосталаў Пятра і Паўла, якія ўваходзілі ў лік 12 бліжэйшых вучняў Ісуса Хрыста.

Што і калі можна есці?

Пятроў пост не адносіцца да ліку строгіх, такіх як Вялікі і Успенскі посты, таму ва ўсе дні, акрамя серады і пятніцы, дазваляецца ўжываць рыбу, алей і віно. Тым не менш забаронена мяса, мясныя і малочныя прадукты, яйкі.

***У панядзелкі*** Пятрова посту дазволена гарачая ежа без алею.

***У аўторкі, чацвяргі, суботы і нядзелі*** дазваляецца есці рыбу.

***Па серадах і пятніцах***, якія ў праваслаўі лічацца самымі строгімі днямі з-за падзей зямнога жыцця Хрыста, прадпісваецца сухаядзенне.

Святары адзначаюць, што нельга расцэньваць пост як простае захаванне дыеты. Вернікі павінны прытрымлівацца не толькі цялеснага посту, але і духоўнага. Праўдзівы пост звязаны з малітвай, пакаяннем, устрыманнем ад страсцей і заган, выкараненнем злых спраў, а таксама дараваннем крыўд.

ВАКАНСІІ

## Конкурс у ААН

*У ААН пачаўся прыём заявак на працу ад маладых спецыялістаў, у тым ліку з Беларусі.*

Праграма для маладых прафесіяналаў праводзіцца ў ААН кожны год. У ёй могуць удзельнічаць выпускнікі ВНУ не старэйшыя за 32 гады, якія валодаюць англійскай або французскай мовай.

Першымі свае заяўкі змогуць падаць спецыялісты ў галіне інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій і паліталогіі — з 14 чэрвеня па 13 жніўня. З 21 чэрвеня па 20 жніўня ААН будзе прымаць заявы ад тых, хто хоча працаваць у сферы эканомікі ці радыёвяшчання. Для працы на радыё ААН патрэбны прадзюсары, якія валодаюць арабскай, іспанскай, кітайскай, рускай і суахілі. А з 27 чэрвеня па 26 жніўня свае анкеты ў ААН змогуць даслаць спецыялісты ў такіх сферах, як правы чалавека і фатаграфічнае мастацтва. У гэтым годзе ўдзельнічаць у конкурсе могуць грамадзяне больш як 50 дзяржаў, у іх ліку Беларусь, Грузія, Латвія і Расія.

Пісьмовы экзамен для тых, хто прайшоў папярэдні адбор, адбудзецца 4 снежня.

З НАГОДЫ

## Выдатнікам аховы здароўя — паўтара мільёна

У мінулую нядзелю ў Беларусі адзначылі Дзень медыцынскіх работнікаў. Напярэдадні прафесійнага свята загадам міністра аховы здароўя 79 медыкаў былі ўзнагароджаны знакам “Выдатнік аховы здароўя Рэспублікі Беларусь”. Да ганаровага знака прыкладалася і аднаразовая грашовая прэмія ў памеры 10 базавых велічынь. Сёння гэта паўтара мільёна рублёў. Наўрад ці паўтара мільёна можна назваць годнай ацэнкай працы лепшых з лепшых урачоў, тых, хто ахоўвае наша здароўе і дапамагае змагацца с хваробамі.

ДАРЭЧЫ

## Годныя зарплаты медыкі атрымаюць восенню?

— Да восені мы годна павысім зарплату, і яна будзе значна вышэй, чым цяперашняя, — паведаміў міністр аховы здароўя Беларусі **Васіль Жарко** напярэдадні Дня медыцынскага работніка. Што ў яго разуменні годная зарплата — невядома. Зараз сярэднямесячная зарплата ў ахове здароўя складае 4 мільёны 290 тысяч. Урачы атрымліваюць у сярэднім 6 мільёнаў 400 тысяч, медыцынскія сёстры — 4,3 мільёна. І гэта з улікам сумяшчальніцтва.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ЧУЛІ?

## На ўсю Беларусь — толькі шэсць фаніятраў!

*У Беларусі сексолагі, аўдыёлагі і фаніятры — самыя рэдкія ўрачы-спецыялісты.*

Паводле дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, у Беларусі працуе ўсяго 6 сексолагаў, 5 аўдыёлагаў і 6 фаніятраў (урачы, якія займаюцца прафілактыкай, дыягностыкай і лячэннем захворванняў галасавога і слыхавога апарата).

Таксама рэдкімі спецыялістамі ў краіне з’яўляюцца таксіколагі (15 чалавек — у 2013 годзе), мануальныя тэрапеўты (14), сурдолагі (13), генетыкі (12), перфузіёлагі (9).

Самымі распаўсюджанымі спецыялістамі сярод медработнікаў з’яўляюцца практыкуючыя ўрачы-педыятры (21,5 на 10.000 насельніцтва), тэрапеўты — 17,1, хірургі — 12,1, паведамляе БелаПАН.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Для каго напісана Канстытуцыя?

Чатыры дзясяткі жыхароў райцэнтра Глыбокае падпісаліся пад калектыўным лістом у Савет міністраў, дзе выкладзена просьба, каб урад ініцыяваў зварот у Канстытуцыйны суд з мэтай ацэнкі рашэння Глыбоцкага райвыканкама №167 “Аб вызначэнні месцаў для правядзення мітынгаў і пікетавання” на адпаведнасць Асноўнаму закону.

Нагадаем, што звароты грамадзян, якія дабіваюцца выканання Канстытуцыі, галоўны суд нашай краіны не разглядае. Таму і прыходзіцца грукацца ў дзверы гэтай установы праз пасярэднікаў накшталт Саўміна.

*“Можна было б сабраць болей подпісаў, але для нас было галоўным не гэта. Мы хацелі накіраваць ліст у Саўмін, каб атрымаць рэакцыю на тое, што ў нашым Глыбокім адбываецца. Пасля прыняцця рашэння райвыканкама №167 ад 13.02.2012 у цяперашнім ягоным выглядзе нам не дазволілі ніводнай масавай акцыі. Хоць мы звярталіся з заяўкамі ў райвыканкам з кастрычніка мінулага года пяць ці шэсць разоў”,* — гаворыць глыбоцкі актывіст **Зміцер Лупач**.

Першую, кастрычніцкую, адмову актывісты атрымалі таму, што ў рашэнне райвыканкама ўнясілі змены: былі зменены месцы, вызначаныя мясцовымі ўладамі для правядзення масавых акцый. Але астатнія ўмовы засталіся ранейшыя, і менавіта праз іх масавую акцыю ў Глыбокім правесці стала немагчыма, працягвае спадар Лупач:

*“У рашэнні выканкама №167 ёсць пункт, згодна з якім трэба разам з заяўкай падаваць копіі дамоў на абслугоўванне акцыі службамі ЖКГ, міліцыяй і паліклінікай. Але без дазволу ўлад ніхто не бярэцца заключаць такія дамовы. Атрымліваецца зачараванае кола, з якога няма выйсця. Таму ў лісце ў Саўмін мы просім, каб адтуль ініцыявалі зварот і ў Канстытуцыйны суд дзеля праверкі адпаведнасці рашэння нашага выканкама Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь — галоўнаму дзяржаўнаму дакументу, у якім замацаваны нашы правы”.*

Сітуацыя ў Глыбокім не нейкая незвычайная. Наадварот, яна тыповая для ўсёй краіны. Правы, якія грамадзянам гарантаваны адным законам — Канстытуцыяй Беларусі, фактычна аказаліся забаронены іншымі, падзаконнымі, актамі.

Артыкул 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь вызначае:

*“Свабода сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетаванняў, якія не парушаюць правы грамадзян, гарантуецца дзяржавай”.*

На справе ж мы маем вось якую сітуацыю.

*Пенсіянеру **Васілю Хадзькову** чыноўнікі Мінскага гарвыканкама ў пяты раз за апошнія паўгода адмовілі ў дазволе на пікетаванне. Акцыя была запланавана на 15 чэрвеня з 16.00 да 17.00 каля слупа з асвятляльным ліхтаром, што пасярод сквера “Палянка” паміж вуліцамі імя Лібкнехта, Карпава і Люксембург у Маскоўскім раёне сталіцы. Прычым заяўнік звярнуў увагу чыноўнікаў на тое, што прапанаванае месца пікетавання адпавядае нормам Закона Рэспублікі Беларусь “Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь”.*

Падчас акцыі заяўнік меркаваў выкарыстаць выраблены на ўласныя сродкі плакаты наступнага зместу: “Дом знеслі (2009 год), метро пусцілі (2012 год), а кватэру даць забыліся!”, “У Канстытуцыі правы і свабоды — на паперы, а мне яны патрэбныя ў жыцці!” і “На выснове якой нормы права мне — уласніку знесенага дома адмоўлена ў новай кватэры?”.

Аднак чынавенства, як і раней, адмовіла пенсіянеру ў правядзенні акцыі на падставе таго, што 15 чэрвеня з 14.00 да 18.00 УП “Зяленбуд Маскоўскага раёна горада Мінска” з удзелам грамадскасці будзе праводзіць працы па добраўпарадкаванні сквера “Палянка”. Прычым ранейшыя адмовы на правядзенне акцыі ў гэтым жа месцы матываваліся таксама неабходнасцю добраўпарадкавання тэрыторыі сквера і пакосам травы.

Не выключана, што не толькі беларускім, а ўжо і сусветным рэкардсменам па атрыманні адмоўных адказаў на свае заяўкі аб правядзенні пікетаў можа стаць баранавіцкі актывіст **Рыгор Грык**. Спадар Грык падаваў заяўкі на пікеты па самых розных праблемах. Спрабаваў такім чынам пратэставаць супроць росту цэн, альбо дабівацца, каб чыноўнікі належным чынам рэагавалі на звароты грамадзян, альбо ўзнімаць многія іншыя сацыяльныя праблемы, але ўсё безвынікова. Звароты ў суд таксама не дапамаглі актывісту рэалізаваць свае правы на правядзенне пікетаў, гарантаваныя Канстытуцыяй. Сапраўды замкнёнае кола!

Некалькі тыдняў таму **віцебскія актывісты** даслалі калектыўны ліст у Савет міністраў з мэтай паўплываць на гарадскія ўлады, каб тыя ўнеслі ў рашэнне адпаведныя змены. Бо ў Віцебску актывісты не могуць ужо на працягу пяці гадоў атрымаць дазвол на правядзенне хоць якой вулічнай акцыі...

Падобныя прыклады можна прыводзіць бясконца, некаторыя справы ўжо разглядаліся ў Камітэце па правах чалавека ААН, і міжнародныя юрысты пацвердзілі: праўда не на баку беларускай дзяржавы. Яна на баку тых беларусаў, якія дабіваюцца магчымасці рэалізаваць сваё права на правядзенне публічных акцый — мітынгаў, пікетаў, шэсцяў і т.п. І толькі беларускі Канстытуцыйны суд ніяк не можа знайсці ў сабе сілы, каб стаць на абарону Канстытуцыі.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# Ці праўда, што Наталля Машэрава моцна хварэе?

*Чуў, што дачка Пятра Машэрава, стагоддзе з дня нараджэння якога будзе адзначацца праз чатыры гады, нібыта перанесла інсульт. Не магла б “Народная Воля” высветліць, як здароўе Наталлі Машэравай?*

*І яшчэ — не так даўно расіяне здымалі ў Мінску кіно пра Машэрава. Цікава, ці ўзгадняюць кінематаграфісты сцэнарый з сям’ёй Машэрава? Можа, запрашаюць тую ж дачку кансультантам альбо раяцца з ёй? Усё ж такі гэта наша гісторыя...*

**З павагай — Ілля СВІРЫН, Мінск.**

Наталля Машэрава адказала на званок бадзёрым голасам.

— *Ого, якія чуткі ходзяць!* — здзівілася яна. — *Але, будзем спадзявацца, раз так кажуць, значыць, нічога падобнага не здарыцца. Я жыву ціха, са здароўем усё нармальна (цьфу-цьфу). Не звяртаюся да дактароў, не хаджу па бальніцах. І пасля таго, як мяне папрасілі з “лечкамісіі”, я нават нікуды не ўладкоўвалася на ўлік.*

*Увогуле, чуткі пра нейкія здарэнні з нашай сям’ёй — гэта ўжо быццам бы і не навіна. Так, незадоўга да татавай гібелі прайшоў слых, што мы ўсёй сям’ёй нібыта загінулі ў ДТЗ. Тэлефанавалі знаёмыя і адразу пыталіся: “Вы жывыя?!” Мы сапраўды павінны былі ехаць некуды ўсе разам, але тата ў апошні момант адклаў паездку. Гэта было гады за два да яго смерці...*



Адзін час Наталля Машэрава была дэпутатам Палаты прадстаўнікоў. Ці працуе яна цяпер?

— *Я даўно на пенсіі,* — адказвае Наталля Пятроўна. — *Выкладала ў Смаленскім універсітэце. А цяпер жыву на дэпутацкую пенсію. Я заўсёды гаварыла мужу: “Ну навошта мне гэтае дэпутацтва?”, а цяпер мы разам з ім смяёмся: вось дзеля пенсіі і трэба было. Хаця я тады пра гэта не думала...*

*У мяне вялікая сям’я, сямёра ўнукаў, прычым самых розных узростаў: ад 5 да 26 гадоў! Мала таго, што ў мяне нарадзіліся дзяўчынкі-блізняты, дык яшчэ ж і ў сына блізняты! Хутка, мабыць, праўнукі будуць — у ліпені вяселле ў старэйшага ўнука. Таму, думаю, нездарма жыццё пражыла. Я ганаруся тым, што ў мяне такая сям’я. Мы адчуваем адзін аднаго, на адной хвалі жывём, нягледзячы на ўсе складанасці сучаснага свету...*

Напрыканцы мінулага года адна маскоўская кампанія ў Мінску здымала дакументальны фільм пра Пятра Машэрава. Наталля Машэрава гаворыць, што яна даўным-даўно прыняла для сябе рашэнне не браць удзелу ў такіх праектах.

— *Я не здымаюся ў карцінах пра бацьку*, — тлумачыць яна. — *Мне проста надакучыла быць галавой, што гаворыць з экрана. Перыядычна мне тэлефануюць з розных расійскіх каналаў, спрабуюць мяне зацікавіць. Але калі я прапаноўваю ім факты, матэрыялы — высвятляецца, што мой пункт гледжання і думкі нашай сям’і на гэты конт мала каго цікавяць. Я спачатку крыўдзілася на гэта, а потым змірылася.*

Наталля Машэрава адзначае, што апошнім часам не бачыла ніводнага моцнага фільма пра бацьку.

— *Вельмі добры фільм з’явіўся адразу пасля яго гібелі, здаецца, да 9 дзён яго рабілі, а потым усё было неяк па сыходнай,* — гаворыць Наталля Пятроўна.

Дачка Пятра Машэрава ўжо сёння задумваецца аб тым, як будзе адзначана 100-годдзе з дня яго нараджэння. І сама рыхтуе ўспаміны пра бацьку.

— *Канешне, ёсць шмат нагод узгадаць пра тату,* — адзначае яна.

**Марына КОКТЫШ.**

ЗАПРАШЭННЕ

## *Рыцары збіраюцца ў Лідзе*

*Рыцарскі фестываль “Меч Лідскага замка” адбудзецца ў Лідзе 28 чэрвеня. Сярод тых, хто заявіў пра свой удзел у шоў, — рыцары і байцы з Беларусі, Расіі, Літвы, Украіны.*

Пачнецца свята тэатралізаваным дзействам, прысвечаным гісторыі Лідскага замка. Затым адбудуцца першыя турніры: у баявым мастацтве паспаборнічаюць каманды. Далей праграма працягнецца індывідуальнымі спаборніцтвамі, будзе арганізаваны турнір на мячах-бастардах з удзелам лепшых байцоў з розных краін.

У праграме таксама запланаваны выступленні сталічнага ансамбля сярэднявечнай музыкі “Hardwood”, а таксама майстар-класы па кавальскай і ганчарнай справе ад вядомых лідскіх рамеснікаў. Увечары ля сцен Лідскага замка пройдуць фінальныя індывідуальныя і камандныя турніры, а таксама канцэрт мінскага гурта “Pawa” і сярэднявечная дыскатэка з яго ўдзелам.

## *У Мірскі замак прыедзе Уладзімір Кузьмін*

*Народны артыст Расіі выступіць ноччу на летнім фестывалі “Музычныя вечары ў Мірскім замку”.*

Адкрые форум “Песня года Беларусі—2014”, а завершыць праект “Жывы рок” і канцэрт украінскага дуэта “Патап і Насця”.

“Для многіх ужо стала добрай традыцыяй прыязджаць у Мір на некалькі дзён, далучаючыся да намётавага гарадка або застаючыся ў гасцініцы, — кажуць арганізатары фэсту. — Любы жадаючы можа прасякнуцца гэтай рамантычнай атмасферай летніх вечароў з любімымі музычнымі выканаўцамі”.

Фестываль у Мірскім замку будзе доўжыцца *з 20 па 22 чэрвеня*.

ГАСТРОЛЬ

## *Купалаўскі тэатр у Парыжы!*

*Падчас Дзён культуры Беларусі ў Францыі 18 чэрвеня ў Парыжы пакажуць спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы “Пан Тадэвуш”.*

Паказ пастаноўкі **Мікалая Пінігіна** паводле знакамітай паэмы Адама Міцкевіча арганізаваны па ініцыятыве Пастаяннага прадстаўніцтва Беларусі пры ЮНЕСКА і прымеркаваны да 180-годдзя напісання твора.

**Аліна ВЕТРАВА.**

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

## Сенсацыя сезона

*Менавіта так называюць канцэрт, які адбудзецца 19 чэрвеня ў Белдзяржфілармоніі.*

У Мінску разам з Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам выступіць Піцер Донахаў — выбітны піяніст нашага часу, чым майстэрствам захапляюцца слухачы краін Еўропы і Далёкага Усходу, ЗША і Канады, Аўстраліі і Новай Зеландыі.

Дзякуючы высокай тэхніцы, пачуццю стылю, гарманічнаму спалучэнню інтэлекту і агнявога тэмпераменту П.Донахаў зрабіў бліскучую кар’еру. У паслужным спісе піяніста канцэрты амаль са 150 аркестрамі ўсяго свету.

Для мінскай публікі ён сыграе “Канцэрт №3 рэ-мінор для фартэпіяна з аркестрам” Сяргея Рахманінава. У праграме прагучыць і паэма кампазітара “Званы”.



У канцэрце таксама возьмуць удзел Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла Рэспублікі Беларусь імя Р.Шырмы, народныя артысты **Беларусі Сяргей Франкоўскі, Уладзімір Пятроў,** расійская спявачка **Ірына Крыкунова**.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

# Павел Латушка ажаніўся?

*Інфармацыю пра гэтую падзею ў жыцці цяперашняга Надзвычайнага і Паўнамоцнага Амбасадара Беларусі ў Францыі распаўсюдзіў адзін глянцавы беларускі часопіс, які на сваіх старонках склаў рэйтынг так званых самых прывабных халасцякоў Мінска.*



Сярод кампаніі маладых, амбіцыёзных, нежанатых і перспектыўных названа і прозвішча былога міністра культуры Беларусі 41-гадовага Паўла Латушкі. Праўда, пасля невялікай нататкі пра дыпламата зроблена дапіска: маўляў, пакуль нумар рыхтаваўся да друку, стала вядома, што Павел Паўлавіч ажаніўся.

Днямі на змену сямейнага статусу Латушкі звярнулі ўвагу і журналісты беларускага партала tut.by, якія склалі спіс з 12 беларускіх чыноўнікаў, *“чые абаянне, інтэлект і сексуальнасць прымушаюць пачашчана біцца жаночыя сэрцы”:* маўляў, Пал Палыч выбыў з рэйтынгаў самых зайздросных беларускіх халасцякоў, якія ён безварыянтна ўзначальваў некалькі гадоў.

“Народная Воля” вырашыла пацвердзіць інфармацыю з першых вуснаў і задала гэтае пытанне самому Латушку. Аднак ён вырашыў пакінуць гэтую прыватную тэму без каментарыяў, спаслаўшыся на занятасць і немагчымасць працягваць размову. Устрымаліся ад каментарыяў наконт гэтай падзеі ў жыцці свайго начальніка і супрацоўнікі амбасады, аднак і навіну пра вяселле катэгарычна абвяргаць не сталі.

Цікава, што ў афіцыйнай біяграфіі Паўла Латушкі, якая размешчана на сайце амбасады, ягоны сямейны статус не пазначаны ўвогуле. Напісана толькі, што мае дачку і сына. Пра тое, што ў Паўла Латушкі ёсць дарослая дачка Яна, якая вучыцца ў БДУ, ведалі многія. Не раз Павел разам з Янай з’яўляліся на публіцы. Яшчэ ў бытнасць міністрам культуры Павел Латушка распавядаў у адным са сваіх інтэрв’ю, што выхоўвае Яну з 10-гадовага ўзросту — з яе маці яны даўным-даўно разышліся. А вось пра сына Павел Латушка не распавядаў. І на публічныя мерапрыемствы яго з сабой не браў.

*“Хлопчык нарадзіўся не ў гэтым і не ў мінулым годзе, а значна раней”,* — паведамілі супрацоўнікі амбасады Беларусі ў Францыі.

Дарэчы, да ад’езду ў Францыю Павел Латушка даволі часта трапляў у аб’ектыў фатографаў разам з прыгожай спадарожніцай. Але ці пабраўся ён шлюбам менавіта з гэтай жанчынай — дакладна не вядома. Латушка не любіць афішаваць сваё асабістае жыццё.

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ПЕРСОНА

# Игрок

## 25 вопросов профессиональному гемблеру

Мой герой оставил у меня двойственное впечатление. Ему бы больше подошла рубрика “Смотрите, кто пришел”. Потому что дело, которым он занимается, еще совсем недавно стойко ассоциировалось с пороком. Впрочем, лично у меня сочетание слов “игорная индустрия” до сих пор ассоциируется с преисподней.

С другой стороны, азартные игры в сети Интернет невероятно популярны, по прогнозам некоторых экспертов, каждый год индустрия онлайн-игр прибавляет 8—12%. Закрывать на это глаза бессмысленно. То есть уже всем очевидно, что часть молодых и здоровых граждан “не сеют, не пашут, не строят”, а работают у розетки, то есть в домашних условиях стучат на “компе” и довольно успешно зарабатывают себе виртуальными картами на жизнь. Их можно критиковать, ими можно возмущаться, даже презирать, но не замечать это явление невозможно. Так что познакомиться с новой социальной прослойкой — гемблерами, профессиональными игроками в покер, — стоит хотя бы из познавательных целей.



Он назвался **Родионом БОРОМ**. В разговоре был достаточно искренним и спокойным, но фото попросил не публиковать, из чего я заключила, что мой собеседник не так внутренне свободен, как хочет представить себя сам. Видимо, понимает, что престижным карточное дело его жизни в нашей стране пока не назовешь, что, несмотря на заработки, многие будут считать его образ жизни на грани фола.

Его биография угловата и лапидарна. Ему 28 лет. За плечами минская средняя школа и один курс Университета информатики и радиоэлектроники. Потом работа крупье в казино. Потом — годы игры в онлайн-покер. Достижения последних лет — постоянный приличный заработок. Женат. Вот пока и весь путь. Но он (или более-менее похожий) повторяется в мире уже миллионами, игра рекрутирует с каждым годом все больше людей.

И как сноска: в России и Украине покер запрещен.

В США, родине покерных сайтов, сетевой покер вновь разрешен не так давно и то в нескольких штатах. Эксперты считают, что легализация сетевого покера в стране связана с необходимостью увеличения налоговых поступлений. Ежегодный оборот национального рынка с азартными онлайн-играми прогнозируется в миллиарды долларов. По подсчетам специалистов, бюджетные отчисления могут составить сотни миллионов долларов.

В Беларуси покер не запрещен.

*1.* **— Для начала уточним, так сказать, жанр вашей деятельности. Лично для вас покер — это развлечение или бизнес?**

— Это работа в сфере развлечения. Каждому свое. Кто-то производит, кто-то развлекает.

*2.* **— Но в сфере развлечения должны быть не только игроки, но и зрители. Те, кто наблюдает, переживает, получает удовольствие или, в конце концов, делает ставки на победителя. А у вас есть зрители?**

— Нет. Игроки работают и одновременно расслабляются. Получают всплеск адреналина.

*3.* **— Вам не кажется, что вы, игроки, представляете определенную социальную опасность как люди, не участвующие в жизни общества?**

— Какая опасность? Мы платим налоги. Не все же у нас в обществе работают на заводе или в театре. Я деньги зарабатываю своим умом. Это в казино все подстроено, а в покере все подсчитано. В казино из человека вытряхивают не только деньги, но и душу. Там один раз выиграл, а потом все это проиграешь и еще сверху в десять раз больше добавишь. А в покере как в шахматах: с помощью расчетов ты создаешь такие ситуации, чтобы у тебя было положительное математическое ожидание, то есть выигрыш.

*4.* **— Много людей играют в покер в Беларуси?**

— Да, много.

*5.* **— Что ими движет, как вы думаете, — жажда быстрых денег?**

— Именно. Жажда.

*6.* **— Не боитесь чувства зависимости? Вас тянет к столу?**

— Нет! У меня есть обратное желание: этим не заниматься — ну, как при нормальной работе. Покер стал рутиной, я играю, чтобы зарабатывать деньги. Но очень важно иметь выходные и уметь отдыхать от игры.

*7.* **— Какие качества нужны человеку, чтобы стать профессиональным игроком?**

— Ты должен быть спокойным, уравновешенным, даже отрешенным, что ли. Азарт как раз воспрещается, нельзя поддаваться настроению: “А пошло оно все!..” Игрок не должен отдаваться на волю чувств. В покере существуют четкие правила, есть определенные программы, статистика, которую ты должен изучать. И еще надо следить за игрой оппонентов. Это вообще игра-информация: чем большей информацией владеешь об оппонентах, тем быстрее под них подстроишься и выиграешь. Это как биржа, как шахматы. Анализируешь, просчитываешь, прогнозируешь. Просто так, зайдя в покер “с улицы”, зарабатывать, конечно, не начнешь, надо вложиться в игру: в учебу, в тренировки, вообще отдать ей время. Между прочим результата не получишь.

*8.* **— А вообще в жизни вы любите риск? Идете на рискованные шаги?**

— Бросаться с головой в омут? Нет, это глупо, я не адреналиновый наркоман.

*9.* **— В Беларуси есть знаменитые игроки? Кроме вас...**

— Я не знаменит вовсе. В стране есть пара человек, которые выигрывали крупные турниры, Sunday Million, например, где каждое воскресенье разыгрывается от 1 миллиона долларов и больше. Но я в самых крупных турнирах не участвую, там большие взносы: вход в Sunday Million стоит 215 долларов за один турнир, а переиграть надо примерно 10.000 человек, то есть сыграть 1000 турниров по 215 долларов за каждый. Но это не способ заработать, я играю кэш-игры.

*10.* **— Сколько игрок вашего уровня зарабатывает в месяц?**

— Ммм...

**— Раз вы собираетесь строить дом, то уверены, что на него заработаете?**

— Уверен. Покер — это 100-процентная схема. Например, я могу месяц закончить в минус, но мы сыграем 100 раздач, и на дистанции два-три месяца, то есть в долгосрочной перспективе, я все равно заработаю денег. Это математика.

*11.* **— А психология?**

— Присутствует. Нужно себя знать. Чувства нужно держать в узде, не вестись на эмоции, не кричать, не доводить себя до экзальтации.

*12.* **— Но вы хоть раз испытывали такое состояние?**

— Да, конечно. Все через это проходят. Это же деньги! Невероятный подъем, даже затмение, потом холодное опустошение.

*13.* **— Обмануть друг друга в онлайн-игре можно?**

— Бывает, игроки договариваются, но, как правило, покер-румы их быстро вычисляют и блокируют им аккаунты. Это не вариант. Опытный игрок сразу чувствует подвох.

*14.* **— Вы каждый день тренируетесь? Или это не обязательно?**

— Обязательно, если хочешь развиваться, расти по лимиту. Я, например, беру 50 долларов “за стол”, но есть те, кто берет 100, 200 долларов, 5 тысяч долларов “за стол”. Надо учиться, изучать игру, чтобы вести ее более тонко. Есть пособия, где все расписано по математическим формулам, каждая ситуация проанализирована, как ты должен сыграть.

*15.* **— Как вы стали игроком?**

— Бросил университет... Были скитания... Работал крупье в казино, изучал систему изнутри. Видел человеческие трагедии... А потом друг посоветовал играть в онлайн-покер.

*16.* **— А что ваши родители?**

— Все переживания от непонимания. Но если ты разбираешься в деле, то почему нет? И когда они поняли, что я зарабатываю стабильно, то смирились. А вот родители жены до сих пор считают, что я программист.

*17.* **— Как вы думаете, покер останется вашей работой на всю жизнь?**

— Думаю, что нет. Вложиться в будущем в какой-нибудь прибыльный бизнес? Нет, я больше тяготею к духовным практикам. Я хотел бы открыть клуб йоги, например, чтобы просвещать людей духовно, потому что материальное — это постольку-поскольку, не стоит за него цепляться.

*18.* **— И давно вы пришли к этому выводу?**

— Чем больше играю в покер, тем чаще об этом задумываюсь. Смотришь на окружающих — все в гонке за деньгами. Вначале еда-одежда, потом больше, больше... И нет предела насыщению. Твой ум постоянно побуждает тебя накапливать. Работа в покер — просто средство к существованию. Она не приносит удовлетворения. Покер — наименьший путь сопротивления. Мне не надо ходить на службу в офис, у меня много личного времени. Но как достичь совершенства? И что, в конце концов, может сделать человека счастливым?

*19.* **— Вы говорили о духовных практиках. А где вы им обучались сами?**

— Все приходит изнутри. О духовных практиках задумался, когда понял, что в жизни все не очень радостно и приятно, когда количество денег перестало радовать. Что — деньги? Купил дом, съездил отдохнуть — живешь и живешь, а удовлетворения не получаешь. Ну, сидишь на своем троне из благ и что? И — ничего. А хочется чего-то большего. Хочется ответить на самый главный вопрос: зачем? Зачем все? Но мозг так устроен, что один вопрос будет загружать тысячи новых вопросов. И как с этим разобраться? Значит, надо уйти дальше — за ум. Нельзя вариться только в своем уме. Человеческий ум, как бешеная обезьяна: скачет туда, сюда и не дает ни счастья, ни спокойствия. Такова суть человеческого ума: он не дает покоя.

*20.* **— Покой дарует вера. Вы веруете?**

— Конечно. Но я не причисляю себя ни к одной из конфессий, потому что во всех религиях, по-моему, одна суть. Бог один, просто у людей разные слова. Любовь к людям должна быть безусловна.

*21.* **— Так почему не бросите покер?**

— Бывало такое желание. Мимолетное...

*22.* **— Как жена относится к вашей профессии?**

— С тех пор как она моя жена, она тоже занимается игрой в покер. Женщин в покере достаточно. Хотя им труднее, они эмоциональны, более склонны к взрывам.

*23.* **— А товарищи? Как они относятся к вашему образу жизни?**

— Думаю, они ему в душе завидуют, потому что большинство моих друзей недовольны своим материальным и социальным положением. А у меня свобода действий, мне не надо работать на дядю-начальника, могу делать выходной в любое время. Главное — в месяц отыграть определенное количество рук (раздач), это примерно 70. Так что в день желательно тренироваться не менее 6 часов.

*24.* **— Для вас что-нибудь значит слово *“патриотизм”*?**

— В смысле любовь к Родине? Я не задумывался... Я люблю абсолютно все народы и все родины. Хотя дома чувствуешь себя более комфортно. Но опять же комфорт — это состояние ума, его за деньги я могу ощутить в любой стране мира.

*25.* **— Тогда чего вам не хватает здесь и сейчас?**

— Всем доволен. И — всего не хватает. Почему-то не покидает чувство пустоты...

**Елена МОЛОЧКО.**



ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ ПА ФУТБОЛЕ-2014

# Самба на футбольным полі

***Галандцы накруцілі вушы чэмпіёнам свету, суддзяў трэба адпраўляць на мыла, а карэспандэнт "Народнай Волі" глядзеў сусветнае першынство разам з бразільскімі дыпламатамі.***

## Сенсацыі нашага гарадка

Як сказаў мне галоўны трэнер беларускай зборнай па футболе Георгій Кандрацьеў, было б зусім сумна, калі б мы загадзя ведалі, што моцныя зборныя на чэмпіянаце атрымаюць перамогі над слабейшымі.

Але мы і любім футбол за яго непрадказальнасць, сілу духу, барацьбу. Скажыце, хто (пры ўсёй павазе да мінулагодніх фіналістаў сусветнага першынства — зборнай Галандыі) мог прадказаць, што 13 чэрвеня яна надзярэ вушы чэмпіёну свету і Еўропы — камандзе Іспаніі, як дзіцяці? Але ж факт ужо гістарычны — галандцы ператварылі "чырвоную фурыю" ў пыл, перамогшы 5:1. Дарэчы, апошні раз іспанская зборная прапускала пяць і больш мячоў у адным матчы 51 год таму, калі прайграла шатландцам — 2:6. І адбылося гэта... 13 чэрвеня 1963 года. Так што дзень 13 чэрвеня у нейкім сэнсе знакавы для Іспаніі.

А вы паставілі б на тое, што Коста-Рыка пераможа чэмпіёна Паўднёвай Амерыкі — зборную Уругвая — ды яшчэ з лікам 3:1?! Калі такія і знайшліся, то адзінкі.

Але я ўпэўнены: усё самае цікавае яшчэ наперадзе. І непрадказальныя вынікі, і прыгожыя гульні, і інтрыга.

## Суддзю на мыла!

*Судзейскія скандалы прысутнічаюць на кожным чэмпіянаце, але ў гэтым плане бразільскі мундзіяль узяў, што называецца, з месца ў кар'ер.*

Ужо ў першым матчы першынства, у якім сустракаліся зборныя Бразіліі і Харватыі, пры ліку 1:1 галоўны арбітр сустрэчы Нісімура даў у вароты харватаў абсалютна сумніўны пенальці. У тым моманце хутчэй бразільца трэба было караць за сімуляцыю, чым даваць такі "прэзент" гаспадарам першынства. Бо калі прызначаць пенальці за пакладзеную на плячо руку, пасля чаго бразілец снапом паваліўся, раскінуўшы ногі, на зямлю, быццам кволая дзяўчына, то за гульню такіх 11-метровых можна назбіраць пад сотню.

У матчы Мексіка—Камерун арбітр наогул за матч не залічыў тры забітыя мячы, два з якіх былі на рахунку мексіканцаў.

Лагічнае пытанне: чаму ФІФА дагэтуль не ўводзіць відэаапаўторы, падчас якіх тэхніка дакладна разбярэцца, быў забіты мяч ці не? Знаходзіўся футбаліст у становішчы па-за гульнёй альбо ўсё было па правілах?

Футбольныя чыноўнікі заяўляюць: маўляў, відэапаўторы зацягнуць матч, гульні згубяць інтрыгу... Лухта! Інтрыга не ў несправядлівасці, а ў прыгажосці футбола. І, калі суддзі паганяць яго сваімі рашэннямі, то ачарняюць саму ідэю. Так, арбітр — чалавек, а не робат, ён можа памыляцца. Дык давайце дапамагаць яму і разам змагацца за справядлівасць. Але, відаць, не ўсім гэта даспадобы. Камусьці патрэбны сумніўныя пенальці, незалічаныя галы, камусьці гэта добра грэе... Зрэшты, ФІФА даўно ўжо скаланаюць карупцыйныя скандалы, і, напэўна, яны — не апошнія.

## «У Бразіліі хлопчыкі нараджаюцца з мячом...»

*Адкрыццё чэмпіянату мне давялося глядзець разам з бразільскімі дыпламатамі ў адным са сталічных пабаў. Лёгкі блюз, піва, футбол...*

Дарэчы, Часовы Паверанны ў Справах Бразіліі ў Беларусі акурат перад адкрыццём чэмпіянату з'ехаў на радзіму, а вось сакратары засталіся ў Мінску. Яны і прыйшлі ў паб пабалець за сваіх разам з жонкамі і супрацоўнікамі пасольства. Нязменны атрыбут прысутных — безумоўна, бразільскія сцягі.

— Наша краіна 64 гады чакала гэтага чэмпіянату, — распавядае 2-і сакратар Пасольства **Даніла КОСТА** *(на верхнім фота — крайні справа)*. — У 1950 годзе, калі сусветнае першынство таксама праходзіла ў нашай краіне, бразільцы ў матчы за "золата" прайгралі камандзе Уругвая, так што зараз усе чакаюць толькі перамогі.

**— А праўда, што ў Бразіліі ўсе умеюць гуляць у футбол?**

— Скажам так: усе думаюць, што ўмеюць. Хоць у нас кажуць, што ў Бразіліі хлопчыкі нараджаюцца з мячом і ля дзіцячага ложка, як правіла, таксама ляжыць футбольны мяч. А гуляюць на самай справе паўсюль — на газонах, асфальце, пляжах. Зямлі хапае.

Сам Даніла Коста са штата Сан-Паула, яго жонка — з Расіі, але таксама болей за бразільцаў.

— У Бразіліі прыгожыя дзяўчаты, але такія ёсць у кожнай краіне, — мой суразмоўца крыху адступае ад футбольнай тэмы. — У вас больш бландзінак, у нас — гарачыя брунеткі.

**— У іх грудзі — як футбольныя мячы?..**

— Больш мячы вось тут, — паказвае Даніла Коста ў раёне сцёгнаў. — Афрыканскія гены...

**— У краіне і зараз праходзяць пратэсты супраць чэмпіянату?**

— Ёсць незадаволеныя, але іх меншасць. Усё ж такі мільёны балельшчыкаў па ўсёй краіне чакалі гэтага свята і выступаюць за футбол.

У той вечар дыпламаты-балельшчыкі засталіся задаволенымі. Іх каманда перамагла ў першым матчы чэмпіянату — 3:1.

## Беларускі журналіст у Бразіліі: «Відаць, арганізатарам вельмі патрэбны грошы на футбол...»

*На чэмпіянаце свету працуе вядомы беларускі фотакарэспандэнт, журналіст агенцтва Associated Press Сяргей ГРЫЦ, які падзяліўся першымі ўражаннямі ад першынства.*

— Тут пры гарачыні за плюс 30 нельга пранесці на стадыён ні крошкі ежы, ні кроплі вады, — *напісаў журналіст у* Facebook. — Відаць, вельмі грошы патрэбны на футбол. Пра абмен валюты — асобная размова.

**— Якія першыя ўражанні ад краіны, мясцовых балельшчыкаў?** — *пацікавіўся я ў калегі.*

— Я наогул не ведаю, чым жыве краіна, бо асабіста ў мяне рабочы графік настолькі шчыльны, што вольнага часу проста няма. Цэн не бачыў, пратэстаў — таксама... На таксі курсірую па маршруце "атэль—стадыён—гатэль—самалёт—стадыён".

**— У журналістаў прэтэнзій да арганізатараў няма?**

— Здаецца, усё ў норме. Хоць самому трэба вельмі асцярожна ставіцца да мясцовых авіякампаній і кантраляваць расклад авіярэйсаў, якія могуць пераносіцца. Як кажуць, можна апынуцца па-за гульнёй...

Teleg

## Як згулялі?

*Першынство толькі набірае абароты. Вось вынікі гульняў, якія адбыліся (без уліку ўчарашніх матчаў):*

**12 чэрвеня**
Бразілія—Харватыя — 3:1.
**13 чэрвеня**
Іспанія—Галандыя — 1:5, Мексіка—Камерун — 1:0.
**14 чэрвеня**
Калумбія—Грэцыя — 3:0, Уругвай—Коста-Рыка — 1:3, Чылі—Аўстралія — 3:1.
**15 чэрвеня**
Англія—Італія — 1:2, Кот-д'Івуар—Японія — 2:1, Францыя—Гандурас — 3:0, Швейцарыя—Эквадор — 2:1.
**16 чэрвеня**
Аргенціна—Боснія і Герцагавіна — 2:1.

**Алесь СІВЫ.**

МНЕНИЕ

## Чрезмерная страсть к футболу — диагноз опасный...

*Некоторые советы болельщика со стажем.*

В Бразилии стартовал очередной чемпионат мира по футболу. Я, как болельщик с более чем 60-летним стажем, хочу сказать, что любовь к футболу — это такая страсть, которая не лечится. Миллионы людей по всему миру (в основном мужчины) увлечены этим замечательным видом спорта настолько, что порой проецируют жизнь любимой команды на свою собственную, напрочь забыв, что это всего лишь игра.

Выражается это главным образом в том, что мы, футбольные болельщики, очень бурно выражаем свои эмоции — как позитивные, так и негативные, принимая слишком близко к сердцу неудачи своих кумиров. А между тем сердце у нас одно, и забывать об этом нельзя.

Дело в том, что результаты ряда исследований кардиологов показали, что чрезмерные нервные напряжения, стрессы, вызванные поражением любимой команды, способны нанести сердцу серьезный удар. Да, порой болельщики на стадионах или у телевизоров во время матчей забывают обо всем. Например, футбольный фанат из Китая даже не обратил внимания на сообщение, что в его доме начался пожар — не хотел отвлекаться от просмотра матча Франция—Испания во время чемпионата мира 2006 года. Как известно, сборная Поднебесной тогда на мировом первенстве вообще не играла, но во время телетрансляций матчей умерло шесть китайских болельщиков...

К сожалению, некоторые молодые фанаты перед просмотром матчей не прочь употребить спиртное и затянуться под пиво сигареткой. Такие болельщики очень рискуют. В первую очередь это относится к мужчинам старше 50 лет.

Я лично перед просмотром матчей лидеров принимаю успокоительные капли и валидол. Поверьте, помогает...

Также нужно избегать накуренных и душных помещений типа спортивных баров.

Однако поклонникам футбола не стоит отчаиваться — в конечном счете все зависит от самого человека. При здоровом образе жизни и контроле эмоций риск "футбольного инфаркта" можно свести к минимуму.

А любители футбола, безусловно, все равно будут болеть. В Бразилии, Испании, Гане и Беларуси... Я тоже ждал этого события с нетерпением!

**Юрий ЯСИНСКИЙ,
ветеран спорта,
заслуженный тренер
Беларуси.**

ШАХМАТЫ

## Миниатюра Н.Нарутя

**Белые:** Кре1, Фb6, Ла1, п. b2 (4).

**Черные:** Крс2, п. с3 (2).

**Мат в 2 хода.**

Предлагаем вниманию читателей двухходовую задачу-миниатюру составителя из г.п.Плещеницы Николая Иосифовича Нарутя. Попробуйте найти ее решение. Свои ответы присылайте по адресу: **220030 Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты "Народная Воля", "Шахматы".**

## Сверьте ответы

Решение позиций, опубликованных в газете.

**Этюд И.Моравеца:** К ничьей ведет напрашивающееся 1.Кр:g7? Правильно **1.Kph7!** h4 2.Kpg6 h3 3.Kpg5 h2 4.Kpg4 h1Ф 5.Kpg3. Теперь ясно, что после ошибочного 1.Кр:g7? черные защищались от мата ходом 5...Фh8!

**Композиция Д.Бронштейна и В.Чепижного:** 1.Kb1! Угроза 2.Кс3х. 1...Лh7+ 2.Cg7x, 1...Cf2+ 2.Cd4x, 1...Кр:b1 2.Са3х, 1...Л:b2 2.Фа3х.

**Миниатюра А.Максимовских:** 1.Лg7! Кр:g7 2.Фh6+!! Кр:h6 3.h8Фх, 2...Kph8 3.Фf6х.

**Задача Н.Бельчикова:** 1.Фа6! Угроза 2.Фе6х. 1...Kpd5 2.Cf3x, 1...Kpf5 2.Фg6x, 1...Kpe3 2.Фd3x.

**Композиция В.Гебельта:** 1.Кс2! Угроза 2.Фе3х. 1...Kpd3 2.Фd4x, 1...Kpf3 2.Фс6х, 1...Кре5 2.Фе6х.

**Двухходовка В.Сычова:** 1.Фg8! Угроза 2.Фd5x 1...C:f5 2.Фа8х, 1...K:f5 2.Фg2x, 1...Кр:f5 2.Kd6x.

**Задача К.Мэнсфилда:** 1.Cg6! Цугцванг. 1...Kf5 2.Cf7x, 1...Кс4 2.Л:b5x, 1...Cf3 2.Cc2x, 1...Кс4 2.Л:b5x, 1...b4 2.Фа2х.

Свои ответы на композиции прислали тт.Костючик (Брест), Ананич (Волковыск), Долгополов (Гомель), Волчик, Ольга Трус (Молодечно), Фурсов (Новополоцк), Колодько (Жодино), Антончик, Какарека, Литвинов, Мильков, Галина Михнюк, Муха, Петрович (все из Минска).

## Зезюлькина вне конкуренции

В Минске прошло первенство страны по шахматам среди юношей и девушек в старшей возрастной группе — до 20 лет. У юношей борьбу вели шесть шахматистов. Турнир проводился в два круга. В споре с сильнейшими юниорами участвовала 18-летняя Анастасия Зезюлькина — гроссмейстер и трехкратная чемпионка Беларуси среди женщин. Именно она оказалась победительницей турнира, показав блестящий результат — 8 очков из 10: 6 побед и 4 ничьи, без единого поражения. На два очка отстал фаворит чемпионата 20-летний международный мастер Виталий Мерибанов (Минск), занявший второе место. Бронзовой медали удостоился кандидат в мастера Егор Филипец (Мозырь), набравший 5,5 очка. На пол-очка меньше в активе у кандидата в мастера Никиты Горшкова (Минск).

В турнире девушек также соревновались шесть спортсменок. Победу одержала минчанка, мастер спорта Татьяна Рево — 6 очков из 10. Серебряная медаль у кандидата в мастера Ольги Молотиловой (Витебск) — 5,5. Такой же итог у бронзового призера мастера спорта Марии Колядич (Минск).

По итогам чемпионатов победители завоевали право представлять нашу страну на чемпионатах мира и Европы.

НОВЫЯ ІМЁНЫ

# Аліна Молаш ўзяла Гран-пры ў Маладзечне

*Прадстаўніца Мінскай вобласці 17-гадовая Аліна Молаш заваявала Гран-пры і прыз імя У.Мулявіна на конкурсе маладых выканаўцаў эстраднай песні "Маладзечна-2014".*

Аліна Молаш нарадзілася ў горадзе Івацэвічы Брэсцкай вобласці. Вучылася ў Івацэвіцкай музычнай школе па класе акардэона. Была выхаванкай Нацыянальнага цэнтра музычных мастацтваў імя У.Мулявіна пад кіраўніцтвам Святланы Стацэнка. Зараз дзяўчына вучыцца на другім курсе Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў на аддзяленні "Мастацтва эстрады". Дзяўчына прытрымліваецца думкі, што перш за ўсё трэба атрымаць адукацыю, бо інтэлект заўсёды бачны на сцэне.

За спінай Аліны нямала розных праектаў, канцэртаў і міжнародных конкурсаў. У 2008 годзе ў складзе трыа дзяўчына ўдзельнічала ў дзіцячым конкурсе песні "Еўрабачанне". У тым жа годзе стала пераможцай "Славянскага базару ў Віцебску". Праз два гады стала ўладальніцай 2-й прэміі на Міжнародным фестывалі мастацтваў Kaunas Talent-2010. У 2012 годзе на конкурсе "Музычная карусель" Аліна Молаш стала лаўрэатам 1-й прэміі.

Першую прэмію і званне лаўрэата конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні ў Маладзечне заваявала **Кацярына Шумская** (Мінск). Уладальнікамі другой прэміі сталі **Артур Міхайлаў і Наталля Ламака** з Мінскай вобласці. Трэцяя прэмія дасталася **Лідзіі Заблоцкай** (Магілёўская вобласць) і **Андрэю Грыгор'еву** (Гродзенская вобласць).

Ацэньвала канкурсантаў аўтарытэтнае журы, у тым ліку **Міхаіл Фінберг** (старшыня журы)**, Іна Афанасьева, Эдуард Зарыцкі.**

**Пётр Ялфімаў**, які ўпершыню ў гэтым годзе прымерыў ролю суддзі на конкурсе маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні, адзначыў значнасць гэтага музычнага форуму.

*"Фестываль робіць добрую справу — захоўвае беларускія нацыянальныя традыцыі песні і паэзіі*, — цытуе спевака belta.by. — *Добра, што моладзь пра гэта памятае і спрабуе гэта падтрымліваць, развіваць. Той мэты, якую ставіць перад сабой фестываль у Маладзечне, ён дасягае на ўсе 100%".*

## Для даведкі

Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2014" аб'ядноўвае вядомых і пачынаючых артыстаў.

*"Гэты форум — своеасаблівая творчая платформа*, — адзначае народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра прафесар **Міхаіл Фінберг**. — *Тут сябе камфортна адчуваюць як маладыя выканаўцы, якія ўпершыню падымаюцца на вялікую сцэну, так і ўжо вопытныя, вядомыя артысты".*

Упершыню фестываль беларускай песні і паэзіі "Маладзечна" прайшоў у 1993 годзе.

**Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск,
вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная:
тэл./факс
(017) 3286871.
Тэл.рэкламнага
аддзела:
(017) 3286609,
3286906
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info**

ISSN 2071-9647
9 772071 964000 14046

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік
і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч
СЯРЭДЗІЧ**

 **Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 16.06.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26500 экз. Заказ №2336.**